Новы Час | 25 красавіка 2020 | № 16 (675) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | №4



# Літаратурная Беларусь

Выпуск №4 (164)
(красавік)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

**lit-bel.org**
**novychas.by**



**Змест**



# Гучыце, псальмы і арфы...

## Са старадаўняй духоўнай нямецкай лірыкі



Фота www.cheltv.ru

### Марцін ЛЮТЭР

***

*Ісусе Хрысце, Збаўца ласкавы*
*Ураратаваў нас ад Божай кары*
*Праз пакуты свае на крыжы,*
*Праз мукі цела і душы.*

*Каб па́мяць пра тое не слабела,*
*Ён падарыў нам сваё Цела,*
*Што нібы хлеба маленькі скрылёк,*
*І Кроў сваю, нібы віна глыток.*

*Ты мусіш славіць Госпада-Бога*
*За ласку духа яго святога.*
*Для адкуплення граху твайго*
*Аддаў ён на смерць Сына свайго.*

*Ты мусіш верыць і не вагацца,*
*Што трэба той Ежай сілкавацца,*
*Калі на сэрцы грэху цяжа́р,*
*Калі ад страху цямнее твар.*

*Бог кажа бедным: «Прыдзіце самі,*
*Дазвольце змілавацца над вамі».*
*Багатаму ж не патрэбен урач,*
*З тых лекаў толькі смяецца багач.*

*Што ёсць такое ў цябе на прыкмеце,*
*Каб за цябе я хацеў памерці*
*Ні ў застоллі, ні ў іншай гульбе, —*
*Ратунак шукай у самім сабе.*

*Вер сэрца свайго ўсёй асновай*
*І спавядай шчырым словам,*
*Што Ўсемагутны Ўладар*
*Табе дараваў сапраўдны дар.*

*Вынік павінен быць відавочны:*
*Бліжняга ты любіць ахвочы,*
*Каб цешыцца ён табою мог,*
*Як спрыяе табе сам Бог.*

**1524 г.**

### Марцін РОНСКАРТ

***

*Падзякуем Богу мы*
*Сэрцамі, словамі, рукамі*
*За веліч яговых спраў,*
*Якія ён робіць вякамі.*
*За тое, што заўжды*
*Клапоціцца пра нас:*
*Ад улоння маці*
*І па сённяшні час.*

*Нябесны наш Уладар*
*Усім нам жадае шчыра*
*Радасці ў жыцці*
*І прасветлага міра.*
*Ласкаю Божай сваёй*
*Ахоўвае нас заўжды,*
*Ратуе і тут, і там*
*Ад усялякай бяды.*

*Хвала і слава Яму,*
*Богу — Айцу і Сыну,*
*І Богу — Святому Духу*
*На троне іх адзіным.*
*Ён — трыадзіны Бог.*
*Воля яго і любоў*
*Сёння і заўсёды*
*І на векі вякоў.*

**1636 г.**

### Георг НОЙМАРК

***

*Хто лю́баму Богу сябе давярае*
*І спадзяецца штодня на яго,*
*Таго ліхалецце абмінае,*
*Гора-бяда абыходзіць таго.*
*Хто давярае Богу дабром,*
*Не на пяску будуе свой дом.*

*Што нам даюць цяжкія турботы?*
*Што нам даюць нашы «вох» ды «ах»?*
*Якая карысць з нашай сумоты,*
*З нашых уздыхаў па лепшых днях?*
*Сваёй неадольнай журбой*
*Мы толькі бо́льшым свае крыж і боль.*

*Хай кожны ма́е хоць крыху спакою,*
*Хай часам спазнае весялосць,*
*Калі дае Божа права на тое,*
*Калі Яго воля на тое ёсць.*
*Усявышні нам тое дае,*
*Бо знае, чаго нам не стае.*

*Ён дорыць нам радасныя гадзіны.*
*Што трэба нам — ведае сапраўды.*
*Толькі для гэтага мы павінны*
*Быць шчырымі вернікамі заўжды.*
*Чакаем дабротаў ад яго,*
*Наколькі мы заслужылі таго.*

*Не думай, калі спасцігнуць напасці,*
*Што гэта Бог пакінуў цябе,*
*А таму, хто купаецца ў шчасці,*
*Ён толькі шчасце і дае.*
*Як толькі прыйдзе іншы час,*
*Пакажа, хто шчаслівейшы з вас.*

*Спявай, маліся, шукай збавення,*
*Сваё прызначэнне ў зямной хадзе —*
*І вер у нябеснае дабраславенне.*
*Тады Ён вернецца зноў да цябе.*
*Хто спадзяваўся на Бога змог,*
*Не пакідае таго Бог.*

**1641 г.**

### Самуэль РОДЗІГАСТ

***

*Усё, што Бог творыць, — дабро.*
*Ён робіць усё справядліва.*
*Пачуецца голас яго,*
*І следам іду я імкліва.*
*Ён мой Гасподзь, ён мяне*
*Надзейна аберагае.*
*Таму яго воля мне дарагая.*

*Усё, што творыць Бог, — дабро.*
*Ён мая радасць і надзея.*
*Якім бы жыццё маё было,*
*Калі б не добрая боская дзея.*
*Хачу скарацца Яму.*
*Бо стане аднойчы ясна,*
*Што ўсё ён задумаў прыўкрасна.*

*Усё, што творыць Бог, — дабро.*
*Хачу ў гэта верыць нязменна.*
*Думаць хачу пра гэта адно,*
*Як ні было б мне дрэнна.*
*І пэўна Айцец святы*
*Прыме мяне ў свае рукі*
*За веру маю, мае мукі.*

**1675 г.**

### Ёахім НЭАНДЭР

***

*Бога хвалі, магутнага славай сваёю.*
*Душа мая поўная боскай любоўю.*
*Натоўпам усім*
*Спяем яму гімн,*
*І хай звіняць арфы хвалою.*

*Бога хвалі, які так дзівосна кіруе,*
*Які табе шчодра арліную моц даруе,*
*Так сцеражэ,*
*Так беражэ,*
*Ніхто, як сябе, не апякуе.*

*Бога хвалі, стварыў што цябе так шыкоўна,*
*Здароўе табе даў, цябе апякае любоўна.*
*А ў час трывог*
*Ласкавы Бог*
*Крылом ахінае цудоўна.*

*Бога хвалі, які цябе дабраслаўляе,*
*Вясновым дажджом з нябёсаў любоў вылівае.*
*Ты толькі ўявi,*
*Колькі любві*
*Табе Усявышні пасылае.*

*Бога хвалі, хвалі яго імя святое.*
*Разам з родам Аўрама хвалі ўсё жывое.*
*Гасподзь — тваё*
*Жыццё і святло.*
*Словам «амінь» скончы маленне тое.*

**1680 г.**

**Пераклаў з нямецкай мовы Анатоль Вярцінскі**

# Мой шлях

Віктар КАЗЬКО

**З нагоды 80-годдзя Віктара Апанасавіча Казько (нарадзіўся 23 красавіка 1940 года) друкуем ягоныя спавядальныя ўспаміны пра перажытае і кранальныя роздумы пра будучае, «застэнаграфаваныя» з дакументальнага фільма пра пісьменніка «Знакі лёсу» (кінастудыя «Беларусьфільм», студыя «Летапіс») — і сардэчна жадаем нашаму паважанаму аўтару яшчэ шмат шчаслівых старонак на ягоным шляху.**

Палессе — край паэтаў. Колькі людзей мастацтва адсюль выйшла! І быў час, калі ў Беларусі нашыя далёкія продкі маглі гаварыць з лесам, з дрэвам, з травой, маглі гаварыць з небам. Не толькі ж балоты былі ў нас. У нас была прага ведаў, зліцця з тым жыццём, што было вакол нас. Проста з цягам часу мы пачалі гэта забываць. Пачалі забываць тую містыку, а гэта сёння інакш, як містыкай, не завецца — зліццё з прыродай. Містычнасць ад нас адходзіць. І я думаю, што гэта самае страшнае, што ў нас адбываецца сёння з чалавекам. Таму што чалавек не толькі няўважлівы стаў да прыроды, ён стаў няўважлівы да тых знакаў, якія дае яму прырода.

Прырода, вось гэтае наша сённяшняе жыццё, кожны дзень пасылае нам знакі. Нам пасылае нейкія знакі неба, нам пасылае знакі трава, нам пасылае знакі вада, нам дрэва пасылае знакі. І мы сталі глухнуць, мы забываемся на сваю прыроду, мы забываемся глядзець сабе пад ногі. Занёсся, увогуле, занёсся, далёка занёсся чалавек і пачаў жыць глабальна. А ўсё ж сапраўднае жыццё — гэта тут, перад намі: у вадзе, на зямлі, гэта тое, што кружыць вакол нас. Ад самага нараджэння за намі ідзе нешта містычнае.

У дзяцінстве неяк на гэта не звяртаеш увагі, у дзяцінстве проста жывеш. Толькі ўжо ў сталасці пачынаеш разумець, што ўсё было невыпадкова, што выпадак адыгрывае значную ролю ў жыцці чалавека. Бо ён падрыхтаваны, падрыхтаваны лёсам, наканаванасцю, тым, што закладзена. І гэта ўжо залежыць ад цябе — выкарыстаеш ты яго ці не. І я за сваім лёсам, за вось гэтымі знакамі ішоў вельмі цяжка, не разумеючы іх.

...Маці, гібель маці. Мы ляжалі з сястрой на печы. Ішоў бой. Мы енчылі з сястрою, каб маці, якая ляжала на палацях, перанесла нас на гэтыя палаці. Яна нас зняла з печы, перанесла. І толькі мы леглі на гэтыя палаці, адразу ж снарад у лушняк, у печ, маці забіла і знесла з печы на нас на жывых. Заліло не кроўю. Хвілінка, адна хвілінка. Каб гэта заставаліся на печы мы, там бы леглі мы.

Гэта аберажэнне і знак нябёс. Гэтыя знакі суправаджалі мяне і тады, калі я ішоў за людзьмі ў канцэнтрацыйны Азарыцкі лагер. Таму што не было куды ісці. Зноў жа знакава я і выйшаў з таго лагеру. Нехта пераказаў бабе, калі ўжо вызвалілі Азарычы, пра канцэнтрацыйны лагер, што ўнук там. А бабе ўжо было пад дзевяноста. Яна прыбегла туды. Ісці я не мог — на плечы. Ад Азарыцкага канцлагера пяць, шэсць ці чатыры, не помню колькі, кіламетраў. І яна мяне панесла. Панесла на плячах. А каб хутчэй, то яна напрамкі пайшла праз узаранае поле. Потым яна ўжо расказвала мне: нясу я цябе цераз поле, а на другім баку поля скача дзед — лютуе, шалее, кіёчкам нейкім махае, крычыць нешта, лямантуе. А я нясу цябе па полю. Прайшла праз гэтае поле, дзед, гаворыць, як аперазаў кійком тым ёй, старой. На мяне паказвае, напэўна, гаворыць, жыць будзе гэты хлопчык, некаму ж трэба жыць. Ты ж прайшла праз міннае поле! Мо, дзякуючы малому, ты і ўратавалася...

Пачыналася, як не дзіўна, і з кніжак. Я не ведаю, як я ў іх улез. Слова столькі значыла! Як прачытаў я першае слова ў кніжках, ужо адарвацца ад гэтага слова не мог. А далей усё пайшло больш сур'ёзна і сур'ёзна. Дачытаўся я да Маўравага «Амока», да нейкіх кніжак, дзе цуды, дзівы. Ну і мяне пацягнула ў гэты вялікі свет. Я вырашыў зведаць свет ад Васка да Гамы, Айкумены да зямлі Саннікава.

Пайшоў я ў гэты свет як у капеечку. Пайшоў у беспрытульніцтва. Усе беглі ў той час там, дзе цёпла, там, дзе ляжаш на беразе мора і на пуза табе банан ці ананас упадзе. Пажадаў яго — і жыві сабе. А я пабег у халадэчу. Я пабег на Аляску. Вычытаў, зноў жа, што Аляску цар здаў у арэнду на 90 гадоў. Так я вычытаў. І заканчваўся тэрмін арэнды. Я пра сябе падумаў — а што? Надыдзе час, амерыканцы аддадуць Аляску, прыйдуць нашыя — а я ўжо там. Добры дзень, я ўжо тут! Асвойваю Аляску, беларус...

Зноў жа гэтая знакавасць, знакавасць нейкая беларуская. Так магло стацца, што я б застаўся б у Расіі. Тады я беспрытульнічаў, быў у Сухінічскім дзетпрыёмніку. На мяне ўжо прыйшло размеркаванне ў нейкі дзіцячы дом пад Калугай. Але адразу ж за гэтым пастанова накіроўваць дзяцей толькі ў свае рэспублікі.

Так я вярнуўся сюды. Вярнуўся да той рэчкі, якую шукаў, вярнуўся да таго дубняку, да таго лесу, да таго, з чым увесь час той жыў. Гэта была самая шчаслівая пара жыцця каля ракі. Рыбалка, грыбы. І там я ўпершыню ўбачыў, адчуў вось гэта неба над сабой. Адзін, пры беразе рэчкі. Рэчка бяжыць, пясок белы, неба чыстае, аднекуль бяжыць зайчык. Наткнуўся на мяне, заенчыў, пабег. Я адзін перад белым светам. Іду і думаю: Госпадзі (ну, не так, канечне, Бога тады мы не ўспаміналі), няўжо гэта маё, няўжо гэта тут, няўжо ў мяне такая рэча, такое неба? Шчаслівае дзетдомаўскае жыццё...

Згадваю падворак нашага былога дзетдомаўскага калгаса. Там мы хаваліся, гулялі, вырошчвалі свіней, цялят, мелі сваіх коней, мелі сваіх варон, каторых вучылі гаварыць. Вось так і жылі. Але ж была беднасць. І не было сталоўкі ў нас. Аднойчы дырэктар дзіцячага дома разбудзіў нас сярод ночы, падняліся большыя хлопцы, амаль усе дзетдомаўцы, і пайшлі на рэчку. Па ёй ганялі плыты. Плыты стаялі пры беразе. І мы за гэтыя плыты — пачалі развязваць і цягаць бярвенні. Цягаць дубы, каб пабудаваць сабе сталоўку.



Уладзімір Мароз і Віктар Казько. Мікашэвічы, 2009 г.

А была і яшчэ мара — мець яблыка, мець свой сад. Асабліва яна была ў дзетдомаўцаў-сірат ваеннай пары. Таму што перад гэтым сады ў Беларусі высякалі. На іх такі падатак далі, што сяляне пачалі высякаць сады. І нам увесь час хацелася ўкусіць яблыка. А іх амаль нідзе не было. Сарока, дырэктар дзіцячага дома, быў былы франтавік і гаспадарчы мужык. Ён разумеў, што трэба натуральная нейкая гаспадарка — мець не толькі коней, валоў, мець сваю зямлю, садзіць бульбу і гэтым прывучаць дзетдомаўцаў да працы, выхоўваць з іх гаспадароў. Вот такім выхаваўчым момантам быў сад, пра які мы ўсе думалі, але не думалі, што гэта магчыма. Што гэта магчыма — пасадзіць сад...

Закончыў восем класаў, павінен ужо ісці ў дзявяты быў. Ну, і дзесяцігодку... І мне гаварылі: закончыш, выцягнем цябе на медаль, пойдзеш без экзаменаў у інстытут. А я прачытаў «Данбас» Гарбатава. Шахцёры. І тут прыехаў наборшчык з Кузбасу. Набіраў на шахту. Кончыліся ўжо там свае працоўныя рэсурсы. І пацяглі дзетдомаўцаў. Дзетдомаўцаў у той час туды эшалонамі везлі. Сірат з Беларусі на кузбасаўскія тыя шахты, на кузбасаўскую металургію. І я яшчэ так незнарок падбіў 10–15 хлопцаў са свайго дзетдома, і паехаў. Паехаў у Кузбас, у Кемерава. Там пачалася і мая журналісцкая работа да пісанне.

Цягнула ўвесь час, цягнула ў Беларусь. Першыя сваё ўжо нармальныя крокі ў літаратуры (ну, гэта высока сказана — крокі ў літаратуры, проста спроба пяра), сапраўдныя, былі на беларускай мове. «Суд у Слабадзе» ці «Судны дзень» я пачынаў на мове. Напісаў старонак дваццаць, адчуў, што не цягну — адрыў ад мовы вялізны. Калі адчуў, што, калі я не паеду ў Беларусь вот у гэтым годзе, то я ўжо ніколі больш у Беларусь жыхаром-беларусам не траплю. Гэта жыццё, гэта Сібіршчына мяне засмокча і пакіне тут канчаткова.

У 1971 годзе мы падаліся назад. Я лічу, што наша жыццё мае падсвядомы адценак. Нейкае тое, што не зусім нам вядома. І ідзе па нейкім дзіўным-дзіўным крузе.

...Сядзелі ў школе, сядзець было вельмі сумна. Якія ўрокі? Мы ўжо дарослыя — нам у лес трэба, нам на рэчку рыбу лавіць трэба, пабегаць, падурэць. І тут раптам крык: «Пажар, пажар! Гарыць, гарыць!». Як сядзелі — хто каля вакна — той у вакно, хто каля дзвярэй — той у дзверы. Пабеглі. Гарэла. Была вясна сухая-сухая. Загарэлася хатка. Ну, а дзетдомаўцы гэтыя па жменьцы, па жменьцы, па вядзёрцы, хто з карцом, хто з пляшачкай. Цягалі, пяском засыпалі. І мы выратавалі хатку.

Калі я прыехаў з Кузбасу, перабраўся на радзіму недзе праз пятнаццаць-шаснаццаць гадоў, што я зрабіў — я купіў тую хатку, перарабіў і пачаў у ёй жыць і пісаць. Там шмат, шмат чаго напісана: і «Неруш» там напісана, і «Выратуй і памілуй, чорны бусел», «Цвіце на Палессі грушка». Усё гэта было зроблена ў той хатцы, якую мы выратавалі. І вот гэтая хата, яна бачыла, сустракала Васіля Уладзіміравіча Быкава, Ніла Сямёнавіча Гілевіча, Алеся Міхайлавіча Адамовіча, Лазара Лазаравіча Лазарава. Кудравец, Жук былі там. Гэта была сапраўды пісьменніцкая, добрая, вельмі лагодная, вельмі цёплая хата...

У мяне амаль усе дрэвы прывітыя мной, выкапаныя ў лесе. Я па восені яшчэ хаджу, падбіраю ігрушкі і яблыні. І прывіваю потым, прывіваю. Адно толькі не падымаецца рука абразаць. Вот не магу па-жывому ўродаваць дрэва, рэзаць. Хоць гавораць, што не трэба шкадаваць, трэба рэзаць, яна будзе радзіць, ёй толькі на карысць. Але хто ведае, што і каму на карысць...

Я пішу не для каго-небудзь, я пішу проста для сябе, для таго, што мне гэта цікава. І калі ўжо (меркаваць іншым) цікава мне, то, пэўна, некаму мо яшчэ будзе цікава. Я ўвесь час пішу і перапісваю нанава сваё жыццё, сваю прыроду, тыя знакі, па якіх іду. І ў творчасці, ад кніжкі да кніжкі, я іду ад таго, што мне ці прычулася, ці прыбачылася, ці на што звярнуў увагу. Тое, што прымусіла мяне збіцца з нагі, прыслухацца, пачуць той жа шолах ліста, гаворку травы, голас з неба. Вот і я так — ішоў без усякага абагаўлення прыроды, проста з разуменнем таго, што без гэтага сёння жыць чалавеку немагчыма. Асабліва таму чалавеку, які піша...

...Недзе на Дзяды сядзеў я ў хаце, запаліў печ. І раптам чую — стол стаяў каля акенца — нехта мне ў акенца дзяўбе. А я без увагі, зірну ў акенца — нікога няма. Другі раз дзяўбе, трэці. Выходжу, гляджу. Сядзіць на гэтым стале коцік. На Дзяды, дзень памінання продкаў. Сядзіць коцік і стукае мне лапай у шыбіну — прымі мяне. Я агледзеўся, ажно за галаву схапіўся. Але ўжо большае дзіва — тут было яшчэ шасцёра коцікаў. Шасцёра маленькіх коцікаў. Адкуль яны ўзяліся? Чаго яны прыйшлі да мяне? І чаму ён папрасіўся ў хату? І менавіта на дзень памінання продкаў. Калі я даў яму есці, усе кінуліся да гэтай міскі і пачалі хлябтаць. А гэты падышоў, нюхнуў, лапай «цюк», адыйшоў, паглядзеў на мяне, матлянуў галавой, і, мне здаецца, усміхнуўся мне...

Мне заўсёды патрэбны для пісьма нейкі штуршок. Вот так з'явіўся ў тым, што я пішу (заканчваю рэч, таму магу пра гэта гаварыць) кот, каторы смяецца. Самае дзіўнае ж у гэтым было пасля. Збіралі клубніцы — жонка, унучка. Ну, і я хадзіў. Раптам чую: унучка набліжаецца да грушкі. Шыпенне, сык, шкамутанне нейкае. Падыходжу, гляджу — стаіць гадзюка. Я не ведаю, як яны біліся — коцік з гадзюкай. Яшчэ два-тры крокі — і на яе трапіла б унучка. Што б там сталася? Лічу, што гэта нешта ніспасланае было ці то ад майго бацькі, ці ад маці і сястры, а найбольш я схільны думаць, што гэта прыйшла душа маёй бабулі. Прыйшла душа маёй бабулі. Прыйшла, каб нешта сказаць, паведаміць, праведаць свайго чалавека на гэтым свеце...

...Наша жыццё падобна на жыццё падвопытнай крысы, якую падвялі да кнопкі з задавальненнем і паказалі, як на яе націскаць. І яна бясконца цісне і цісне. Калі чалавек апомніцца? Як гэта адбудзецца? Вяртанне? Жыццё паказвае, што без вяртання немагчыма. Немагчыма нават таму, што наш беларускі народ павінен знайсці свае пачаткі, свае карані і зніттавацца духам, які ў ім усё ж захаваўся дасёння. Зніттавацца і працягваць жыццё на вось гэтай цудоўнай, найцудоўнейшай зямлі! Бо зямля, якая мае столькі рэчак, столькі блакітных азёраў, столькі грыбоў, столькі дуброў, дзе так суладна могуць з чалавекам жыць вожыкі, і пад хатай яго радзіць рыжыкі, дзе кот нават усміхаецца жыццю... Да гэтага мы яшчэ вернемся, і пра гэта я пішу і заўсёды пісаў, таму што ўсё мае рэчы пачыналіся са слова, з падзеі. І потым я ішоў. Ішоў за гэтым, і нешта атрымлівалася.

**Публікацыя Уладзіміра Мароза**

# Каляндар



Леанід ЛЕВАНОВІЧ

**Гэтае эсэ, пэўна, не — нарадзілася б, калі б не памылка, правільней — недакладнасць у календары. Магчыма, з'явілася яна выпадкова, несвядома, а можа, зроблена наўмысна.**

— Чорт пабірай! Ёсць на свеце справядлівасць! — усклікнуў я, як і герої Караткевіча.

А недакладнасць якраз і тычыцца Уладзіміра Сямёнавіча.

Паспрыяла нараджэнню эсэ і мая даўняя любоў да календароў. Вось з гэтага і пачнем, бо як зазначыла наша слынная паэтка Жэня Янішчыц, «Пачынаецца ўсё з любві».

Памятаю першы каляндар, які давялося ўбачыць. Было тое напрыканцы 1946-га. Вучыўся тады ў першым класе, буквар ужо прачытаны, хоць свайго ўласнага не меў: выдавалі падручнік на пяць вучняў. Прынесла каляндар у нашу новую хату — старую спалілі немцы ў верасні1943-га, — сястра Параска. Яна працавала ў бальніцы, мела хоць і невялікі, але сталы заробак.

Бацькі шчыравалі ў калгасе імя Варашылава за працадні-палачкі, у канцы года на іх налічвалі па 20 капеек грошай. Сума атрымлівалася смехатворная. І гэта за цалюткі год працы! А трэ было плаціць страхоўку, самаабкладанне, падпісваць на пазыку, здаваць малако, мяса, воўну, яйкі. Цяжар падаткаў я зведаў, так бы мовіць, на сваіх руках: пачынаючы з трэцяга класа ішоў у школу і нёс двухлітовы графін малака: бацька пашыў з нямецкай пілоткі торбачку, усунуў у яе шкляную пасудзіну, і я пачаў выконваць дзяржпастаўку. Здаць трэ было 242 літры з тлустасцю тры і тры дзясятыя адсотка. Калі тлустасць ніжэйшая, а ўвесну так і было, — то літраў малака патрабавался болей. Савецкая дзяржава ніякага падману не даравала, хоць сама падманвала, абдзірала сваіх грамадзян, асабліва вяскоўцаў, як ліпку.

Карацей, каб не Параска, календара ў дзяцінстве я б не пабачыў. А так я здымаў яго са сцяны і пры палахлівым, але цёплым агеньчыку лучыны чытаў, перачытваў, разглядаў малюнкі, буйныя, выразныя лічбы. Асаблівa былі даспадобы чырвоныя лісткі — нядзельныя і святочныя дні. Помню, як зараз, дужа грэлі мае дзіцячыя вочы чырвоныя лісткі першага і другога мая. На першым — чырвоны сцяг, людзі святочна апранутыя славяць бацьку Сталіна. На дварэ трашчаў мароз, а я ўжо чуў, як свіргочуць птушкі, у прыбесядскіх кустах цёхкае салоўка, кувае зязюля. Я лётаю па вуліцы басаног. А басанож я тэпаў усе чатыры гады ў мясцовую пачатковую школку. Добра памятаю, як пякла вераснёўская раса ў заскарузлыя пяткі, затое які ласкавы быў цёплы пясок апоўдні, ён дыхаў густым водарам дзёгця-каланіцы, каровіных ляпёх. Спрадвечныя пахі роднай вёскі.

Лісткі з чырвонымі лічбамі я зберагаў, астатнія разляталіся, як восеньскае лісце, на розныя патрэбы: на распал у печы смалячкоў, на коркі для пляшак, часцяком прасіў лісткі сусед дзядзька Мікіпар — на самакруткі...

Мой бацька пражыў восемдзесят два, у апошнія гады прыахвоціўся да календароў: болей меў часу, календары штогод прывозіў я. Матка зайздросціла яму, бо сама не ўмела ні чытаць, ні пісаць. Бацька скончыў тры класы царкоўна-прыходскай школы, вяскоўцы лічылі яго адукаваным чалавекам. Дык вось, начапіўшы акуляры, любіў чытаць пры настольнай лямпе, любіў разглядаць партрэты знакамітых людзей, даты нараджэння і смерці...

Урэзаўся ў памяць мой першы начальніцкі каляндар. І было тое ў 1958-м, на дваццатым годзе жыцця прызначылі мяне дырэктарам Касцюковіцкага раённага Дома культуры. Займеў я кабінет, на стале — шыкоўны каляндар, у шуфлядзе — пячатка. Я меў права выдаваць загады, падпісваць розныя паперы, а на календары пазначаў: выезд агітбрыгады, сесія раённага савета, патэлефанаваць у райкам. І шмат пра што іншае. І ўсе запісы на календары, настольным, перакідным, бо гэткіх шыкоўных кніг-штодзённікаў, якія маюць сучасныя начальнікі, бізнесоўцы, тады не было і ў паміне.

А потым быў каляндар рэдакцыйны, рускамоўны, дый газета рускамоўная, маладзевая — «Знамя юности». А пад тоўстым шклом — карта Беларусі, чырвоным алоўкам абведзеныя гарады і райцэнтры, у якіх быў у камандзіроўках. З гэтай картай і календаром перайшоў у партыйную «Сельскую газету». Як спецыяльны карэспандэнт калясіў па Беларусі, вучыўся разумець жыццё і шанаваць час. Тут я зразумеў, што Час нельга купіць ні за якія грошы, Час ніколі не вярнецца назад.

У студзені 1969-га я вырваўся з моцных абдымкаў газеты для аграрнікаў і перайшоў у «ЛіМ» — выданне творчай інтэлігенцыі. Неўзабаве «ЛіМ» стаў тыднёвікам, працаваць зрабілася цікавей, вальней. У «ЛіМе» я другі раз нарадзіўся — узяў псеўданім Леанід Левановіч. І адбылося гэта ў 1971-м. У тым жа годзе з лімаўскім настольным календаром перайшоў у часопіс «Нёман» — настойліва ўгаворваў Андрэй Макаёнак. А праз чатыры гады з вады кінуўся ў агонь: пачаў працаваць у часопісе «Полымя».

Стоп! Тут я павінен узгадаць Уладзіміра Караткевіча, а то заманўся зрабіць гэта на пачатку эсэ — і маўчок. Дык вось, на палымянскім настольным календары я запісаў: «Патэлефанаваць П. Броўку і Ул. Караткевічу». Сядзеў я тады ў крэсле адказнага сакратара, у адным кабінеце з галоўным рэдактарам Кастусём Кірэенкам і яго намеснікам Генадзем Кляўко. У тую восень мы актыўна змагаліся за павелічэнне накладу часопіса. Расказалі пра планы на новы, 1975 год, па радыё, на тэлебачанні, у газетах. Рэдакцыя вырашыла адзначыць паштальёнаў, у якіх большая падпіска. А як адзнаныць? «Даслаць кніжкі з аўтографамі, — сказаў, як адрэзаў, галоўны рэдактар. — Вось вы, Леанід Кірэевіч, гэтым і займіцеся».

Белпошта дала нам спіс лепшых паштальёнаў, у выдавецтве купілі два дзясяткі кніжак Петруся Броўкі , столькі ж асобнікаў зборніка паэзіі Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду». Броўка папрасіў прынесці кніжкі яму на кватэру, што я і зрабіў. Тэлефаную Караткевічу, чую глухаваты, стомлены, так мне падалося, голас. Уладзімір Сямёнавіч павесялеў, калі я расказаў пра сутнасць справы.

— Я магу наведацца ў рэдакцыю. Калі трэба?

— Пажадана заўтра, каля гадзіны дня. У кабінет галоўнага...

— А вы даўно адказным? Там жа быў Алесь Масарэнка.

— Алесь звольніўся. Паехаў у Сібір. У творчую камандзіроўку.

— Правільна зрабіў. Нешта напіша. А з Кірэенкам не так проста працаваць...

На гэтым развіталіся. Я не прызнаўся Караткевічу, што мы сустракаліся раней. А было так... Вясною 1968-га атрымаў я позву з ваенкамата. У ёй паведамлялася, што мяне выклікаюць на афіцэрскія зборы, тэрмін іх — дзесяць дзён, пасля работы, у Сувораўскай вучэльні. І вось я стаю ў чарзе да стала рэгістрацыі. Раптам нехта тоўхае мяне ў плячо. Паварочваюся — Валянцін Ждановіч, аднагрупнік па завочным журфаку. Абняліся. Побач з ім — Уладзімір Караткевіч.

–Валодзя, знаёмся. Мой сябра па журфаку. Леанід Лявонаў.

— Як так? Поўны цёзка рускага класіка? — здзівіўся Караткевіч, пацiснуў маю руку.

— Ды не. Бацьку звалі Кірэем, — мусіў удакладніць я.

Валянцін сказаў, што я працую ў «Сельской газете», пішу цікавыя нарысы.

— Што пішаш нарысы — гэта добра. У вёсцы хапае мудрых людзей. Але хіба гэта не здзек? Падсунуць вяскоўцам газету на чужой мове. Нонсенс! А другі здзек – у Мінску пасадзіць вучэльню імя ката беларускага паўстання...

Афіцэры-запаснікі, што сталі ў чарзе, здзіўлена пераглядваліся. Валянцін таўхануў Караткевіча пад бок, і той змоўк. На занятках мы болей не бачыліся: я хадзіў не штодня, а Караткевіч з сябрам, мусіць, яшчэ радзей. Сустрэліся на апошніх занятках і не абы-якіх: трэ было страляць з пісталета. Стрэльбы адбываліся ў цiры гэтай жа вучэльні. Трапнасцю афіцэры запасу не вылучаліся, некаторыя нават не траплялі ў мішэнь, пасылалі кулі ў малако.

— Нічога, бывае. Галоўнае, страляў у бок праціўніка, — суцяшаў хударлявы, жылісты маёр, які праводзіў заняткі.

Пачуўшы гэтую фразу, Караткевіч гучна і весела зарагатаў:

— Малайчына, таварыш маёр! Гумар здымае напругу.

І насамрэч, далей мужчыны стралялі лепей.

З вучэльні мы выйшлі разам. Валянцін пахваліўся, што атрымаў ганарар — ён працаваў у часопісе «Маладосць», прапанаваў замачыць.

— Замачыць ганарар — святая справа, — усміхнуўся Караткевіч. — Але, хлопчыкі, толькі надоўга...

Зазірнулі ў кавярню каля Опернага, выпілі бутэльку шампанскага і развіталіся...

Але вернемся ў рэдакцыю «Полымя». Уладзімір Сямёнавіч не падвёў: а палове першай ужо заняў вялікі стол галоўнага рэдактара, які заўсёды быў чысты — такі парадак любіў шэф. Караткевіч перачытаў спіс паштальёнаў, усклікнуў — прыйшоў ён вясёлы, трохі нападпітку:

— Ну й прозвішчы! Качан, Казёл ды Баран. І ўсё жанчыны.

Памятаю, было і прозвішча Канавод. І таксама жанчына. Гэтае прозвішча Караткевіч далікатна абыграў. Дарэчы, аднолькавых дарчых надпісаў не было. Некаторым паштаркам пашанцавала атрымаць паэтычныя аўтографы. Пятрусь Броўка акуратным почыркам усім падпісаў аднолькава: з найлепшымі пажаданнямі...

Болей гадзіны падпісваў Караткевіч свае кніжкі. Калі скончыў, я ўзгадаў сустрэчу ў Сувораўскай вучэльні. «А... нешта прыпамінаю. Добра, што вы цяпер у «Полымі»... А з шэфам будзьце дыпламатам». Гэтае пажаданне мудрага Уладзіміра Сямёнавіча я ўспамінаў не раз, і ўсё ж «начальнікам штаба» — так галоўны рэдактар называў пасаду адказнага сакратара, і гэта правільна, — я вытрымаў восем месяцаў. Як толькі паявілася вакансія — месца загадчыка аддзела навукі і мастацтва, я папрасіўся туды. Са сваім календаром перабраўся ў іншы пакой.

Тут мой стол стаяў каля вакна, насупраць месціўся крытык Рыгор Шкраба, побач з ім — Валянціна Коўтун, маладая таленавітая паэтка, супрацоўніца аддзела крытыкі. У пакоі стаяў і стол стыль-рэдактара Ліды Карамазавай. Да нас вельмі часта заходзілі аўтары — здымалі пытанні. Найбольш пытанняў па мове артыкулаў было ў вопытнага стыль-рэдактара. Часта дыскутаваў са сваімі аўтарам і Рыгор Шкраба...

Часта завітваў да нас Уладзімір Караткевіч. Што цікава, размоў пра літаратуру не пачынаў, толькі аднойчы пахваліў вершы Валянціны Коўтун, надрукаваныя ў «ЛіМе», пацалаваў ёй ручку. Паэтка зарумянелася, як макаў цвет, зрабілася яшчэ прыгажэйшай.




Фота www.nlb.by

**Цяжар падаткаў я зведаў, так бы мовіць, на сваіх руках: пачынаючы з трэцяга класа ішоў у школу і нёс двухлітовы графін малака: бацька пашыў з нямецкай пілоткі торбачку, усунуў у яе шкляную пасудзіну, і я пачаў выконваць дзяржпастаўку**

Працяг на стар. 10 (4) »

# Каляндар

« Працяг.
Пачатак на стар. 9 (3)

Караткевіч апавядаў пра свае паходы на Камароўскі рынак, пра знаёмых прадавачак, у якіх купляў сала, садавіну і гародніну. Ён тады халасцякаваў, трэ было самому вырашаць побытавыя справы. Жыў на вуліцы Веры Харужай, непадалёк ад Камароўкі, таму часцяком і завітваў на рынак. Расказваў з гумарам і сам гучна рагатаў. Можа, таму , што ён шмат пісаў, мог сядзець за сталом цалютку ноч, яму не хацелася гаварыць пра творчасць, болей цікавіла жывое, непрыдуманае жыццё.

Прыгадваецца яшчэ адна сустрэча і мая некарэктная прапанова. А было так. Аднойчы завітаў у «Полымя» Караткевіч. Рыгор Шкраба прыхварэў, працаваў дома, недзе выйшла і Валя Коўтун, Ліда Карамазава здымала пытанні ў карэктарскай. Уладзімір Сямёнавіч распытаў, дзе хто, убачыў у мяне на стале карэктуру наступнага нумара. Прачытаў змест. Я вырашыў скарыстаць яго зацікаўленасць часопісам і сказаў пра свой клопат: набліжаецца юбілей вядомага прафесера-гісторыка, галоўны загадаў даць артыкул.

— Можа б вы паралі аўтара, а мо самі б напісалі?

— Не, хлопча, пра гэтага русафіла я пісаць не буду. Ён не варты ўвагі саліднага часопіса. — Караткевіч спахмурнеў. — Разумею, што загад ёсць загад. Старайцеся меней хваліць... Я зараз пішу пра Максіма Багдановіча. Во хто адкрыў людзям нашу гісторыю. А гэты ваш прафесар — таптун, гатовы затаптаць усё беларускае...

Заманулася адшукаць у восьмым томе Караткевіча ягоны артыкул пра М. Багдановіча. Захацелася зрабіць вынятку. «Максім Багадановіч даў нам першы ўрок гісторыі. Даў яго, нарадзіўшы ў нашых людзях гонар за сваё мінулае, і гістарычнае мысленне, і веру ў будучае».

Здорава сказана!

І — пра апошнюю сустрэчу з Караткевічам.

На пачатку лета 1980-га ў Мінску гастраляваў тэатр з Украіны, дакладна не памятаю, які, ці з Кіева, ці з Львова, а мо з іншага горада. Спектаклі ставіліся ў Доме афіцэраў. Як загадчык аддзела мастацтва, я часта наведваўся ў тэатры. На гэты раз быў з жонкай. Увайшлі ў вестыбюль, народу поўна, усе прынядзеленыя, святочна апранутыя. Насустрач — Караткевіч, усхваляваны, узнёслы, пры гальштуку, у белай кашулі. Для яго Украіна — другая радзіма. Парукаліся, я кажу: «Гэта мая жонка. Рагнеда». –«Рагнеда! А божухна! Князёўна даражэнькая!» — ён тут жа ўкленчыў на калена і пацалаваў « князёўне» ручку. Мне падалося, што ў вірлівым вестыбюлі ўсе сціішыліся, уталопіліся на мужчыну, які ўкленчыў перад жанчынай.

На вялікі жаль, гэта была апошняя сустрэча з Уладзімірам Сямёнавічам. Я тым летам з палымянскім календаром апынуўся на тэлебачанні, у крэсле галоўнага рэдактара літаратурна-драматычных праграм. Неяк мы запланавалі запісаць Караткевіча, каб ён прачытаў новыя вершы. Разоў колькі званіў яму, але тэлефон маўчаў. Урэшце запіс перадачы я даручыў свайму намесніку Іосіфу Скурко. Праз нейкі час ён дакладае: «Гаварыў з Караткевічам. Новых вершаў у яго няма. І часу на перадачу няма. Едзе на Палессе здымаць кіно».

Убачыў Караткевіча на сцэне, на яго юбілейнай вечарыне, прысвечанапай 50-цігоддзю з дня народзінаў. Усхваляваны, як ніколі, быццам раскрылены, расчырванелы, з ордэнам Дружбы народаў на грудзях, ён углядаўся ў паўнюткую залу Дома літаратараў і казаў: «Калі я нешта напісаў, нешта зрабіў, дык гэта ваша заслуга. Бо я без вас нішто. І ніхто...» Зала адказала таленавітаму творцу авацыяй...

Час ішоў. З’явіліся календары на роднай мове. Пачаў выходзіць каляндар-кніга, прыгожы, маляўнічы, з партрэтамі выдатных дзеячаў, поўны цікавых звестак з нашай гісторыі.

Любоў да календароў, разуменне каштоўнасці і незвартнасці часу паспрыялі нарадлжэнню «Гімна Часу», які вянчае мой раман «Бесядзь цячэ ў акіян». Мне падалося арганічным, натуральным паразважаць на беразе Бесядзі пра плынь ракі Часу — Леты. Пра Час разважаюць мае героі 8 лістапада 1981 года. У той дзень яны вярталіся з восеньскага (Змітраўскага) кірмашу, які здаўна ладзіўся ў мястэчку Саматэвічы на радзіме Аркадзя Куляшова. На жаль, Чарнобыль знішчыў Саматэвічы, а няма вёскі, то няма і кірмашу. Загінула, зарасла крапівою і чорным палыном і мая родная вёска Клеявічы.

**Пілі шампанскае, гаварылі тосты, а я, аўтар, думаў пра хуткаплыннасць ракі Часу — Леты. Увогуле, што такое чалавечае жыццё? З чаго яно складваецца? З хвілінаў гадзінаў, гадоў... Шчасце, каханне — усё ў часе...**

Дык вось, мае героі стаялі на стромым беразе Бесядзі, пілі шампанскае, гаварылі тосты, а я, аўтар, думаў пра хуткаплыннасць ракі Часу — Леты. Увогуле, што такое чалавечае жыццё? З чаго яно складваецца? З хвілінаў гадзінаў, гадоў... Шчасце, каханне — усё ў часе...

З 1984-га я працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура». І ажно да 2000-га. Мой рэдактарскі стол упрыгожваў перакідны каляндар на роднай мове, а на сцяне маёй вясковай хаты вісеў каляндар «Родны край»! Пад Новы год я звычайна набываў чатыры-пяць асобнікаў: сабе, дочкам — Тацяне і Вользе, суседзям. Я вельмі злаваўся на выдаўцоў, калі яны праваронілі год 2008-ы — не выдалі каляндар. І крыўдаваў не толькі я, народ патрабаваў наладзіць выпуск календара. І на 2009-ы ён выйшаў, але як заўсёды — са спазненнем. На жаль, гэта працягваецца і цяпер. Парушаю храналогію падзей і зазначу, што ў кастрычніку 2019-га мой сябра, прафесар Вячаслаў Рагойша, надрукаваў гнеўную рэпліку: рускамоўныя календары, выдадзеныя ў Маскве, адрасаваныя дачніку, грыбніку, паляўнічаму, рыбалову прадаюцца з пачатку лета, і людзі вымушаны іх набываць, бо свайго, роднenькага, няма. І з’явіўся ён у продажы толькі ў снежні. Сорамна за нашых марудаў-выдаўцоў.

Сорамна мне зрабілася і за змест. Пачаў гартаць і адразу спатыкнуўся: 22 сакавіка 100 гадоў з дня нараджэння паэта-франтавіка Аляксея Пысіна, а ў календары пра яго ні слова. Некалі нашы нашчадкі назавуць Аляксея Пысіна вялікім паэтам, і гэта будзе справядліва. Крыўдна за нашых класікаў: Уладзіміра Дубоўку і Кузьму Чорнага — пра іхняе 120-годдзе не згадваецца таксама. Не заўважылі укладальнікі і 110-я ўгодкі паэтэсы, вялікай патрыёткі Беларусі Ларысы Геніюш. Магчыма, пра яе не згадалі свядома. Мабыць, таксама свядома прамаўчалі пра 80-годдзе Аляксея Марачкіна, найвыдатнейшага мастака-жывапісца. А чаму б не ўзгадаць заслужанага дзеяча мастацтва Беларусі Леаніда Дударанку, якому 25 кастрычніка спаўняецца 90 гадоў? Пытанняў шмат да занадта запалітызаванага календара «Родны край». Дзякуй Богу, пра дзевяностагадовыя ўгодкі Караткевіча не забыліся ўзгадаць на лістку за 26 лістапада...

А цяпер пра тую недакладнасць, якая ўзрадавала і ўсхвалявала мяне і якая тычыцца Караткевіча. Калі бываю ў Радашкавічах, абавязкова купляю «Рэгіянальную газету». Зарэгістравалі яе ў красавіку 1995-га Аляксандр і Ніна Манцэвічы. Выданне беларускамоўнае. Газета, можна сказаць, сарамаціць афіцыйныя раёнкі, бо некаторыя з іх, як і мая роднейкая «Голас Касцюкоўшчыны», амаль цалкам рускамоўныя. Маўляў, па-беларуску нам не пішуць, чытаюць на мове неахвотна. Таму каб мець болей чытачоў, друкуем рускамоўныя артыкулы. Ніяк не магу пагадзіцца! Раённая газета — афіцыйны орган мясцовай улады, яе павінны выпісваць усе раённыя ўстановы, смялей агітаваць людзей, каб выпісвалі мясцовыя газеты.

Карацей, я не толькі набываю і чытаю календары, а ўсё болей цікаўлюся гісторыяй іхняга нараджэння. І сама назва адмысловая: у старажытным Рыме даўжнік плаціў працэнты ў першы дзень кожнага месяца — у календы. А нашы прашчуры спрабавалі ўзгадніць паміж сабою тры астранамічныя з’явы: вярчэнне Зямлі вакол Сонца і вакол уласнай восі, а таксама рух Месяца. І ў розных народаў свету існуюць тры тыпы календароў: месяцовы, месяцова-сонечны і сонечны.

А як цікава нараджаўся славянскі тыдзень: нядзеля — не для дзела. А панядзелак — пасля нядзелак...

Чытаю каляндар у «Рэгіянальнай газеце»: у Лідзе (1993 год) устаноўлены помнік Францыску Скарыне (скульптар Валяр’ян Янушкевіч). 1997 год. Памерла Наталля Арсеннева, паэтэса. Дзяячка эміграцыі ў Нямеччыне, ЗША.

1511 год. Наваградак атрымаў Магдэбурскае права.

1997 год. У Мінску пачаўся другі з’езд беларусаў свету (доўжыўся 26-27 ліпеня).

1984 год. Памёр Уладзімір Караткевіч, Народны пісьменнік Беларусі.

Стоп! Уладзімір Сямёнавіч не меў звання Народнага, хоць павінен быў яго мець! Каляндар падрыхтавала Марына Сліж і «выправіла» гэтую несправядлівасць. Дарэчы, і Дзяржаўную прэмію прысудзілі Караткевічу пасмяротна...

Яшчэ пра адно: 13 снежня 2019 года ў Нацыянальнай бібліятэцы адбылося падвядзенне вынікаў працы выдаўцоў. Самай папулярнай кнігай 2019 года стаў раман «Каласы пад сярпом тваім» Уладзіміра Караткевіча, перавыдадзены выдавецтвам «Папуры». Што ж, ёсць на свеце справядлівасць!

І апошні штрых, які тычыцца календароў. Пад Новы год завітаў у маю лясную вёску даўні сябра Віктар Казлоўскі, прафесійны лесавод, выдатны фотамайстра, прывёз толькі што выдадзены маляўнічы каляндар «Дзікая прырода Беларусі». Пару месяцаў таму ён прасіў падрэдагаваць тэкст уступнага артыкула.

— Вы прапанавалі, каб тэкст быў на роднай мове. Мы прыслухаліся да гэтай прапановы. Але ёсць пытанні...

Тэкст быў даволі прыстойны, радавалі нашы назвы месяцаў, некалькі слоў мы папраўлі, і мне засталося чакаць выхаду календара.

І вось ён на маім стале. Нарадзіўся ў Беларускім клубе фатографаў дзікай прыроды. Фармат выдання вялікі, на кожнай старонцы па два здымкі. Ды якія здымкі, бацюхны мае! Іх трэба бачыць, бо апісаць немагчыма. Хіба можна перадаць словамі, як выглядае гарэзлівая мардулька лясной куніцы?! Якім важным гаспадаром Белавежжа крочыць мацёры шэры воўк! А вось магутны волат зубр, рагаты алень — на ягоных рагах снегавыя падушкі. Здымкаў шмат, яны вельмі прыгожыя, дынамічныя. Дзіву даешся, як можна гэтак блізка зняць дзікіх звяроў!

Варта сказаць пра фатографаў. Аўтар здымка куніцы, які ўпрыгожвае вокладку календара, Павел Лычкоўскі. Старонку, прысвечаную красавіку, упрыгожваюць паласаты «Барсук і дзьмухаўцы» Віктара Казлоўскага, а побач «Козлік мяняе адзенне» Наталлі Каранкевіч — з рагатага, вушастага козліка касмылямі спаўзае поўсць. На старонцы «Травень» — так, менавіта — «Травень», — уладкавалася між густой высокай травы пярэстае аляня, якога ўдалося зняць Віктару Ярашуку. Які даверлівы пагляд у звярка!

На старонцы «Ліпень» «Прыгажуня шчурка-пчалаедка» Віктара Казлоўскага. Насамрэч, прыгажуня — блакітная з жоўтай спінкай, але яна не мая гераіня, бо я — пчаляр, і пчалаедку не люблю, хоць і яна патрэбная ў прыродзе. А на сакавіцкай старонцы ўнікальны здымак «Танец кахання жураваў», які ўдалося зрабіць Аляксандру і Але Эрдман. Апісанню словамі здымак не паддаецца — яго трэба бачыць. І трэба дзякаваць фотамайстрам за маляўнічыя прыгожыя здымкі.

Мяркую, што гэты каляндар вельмі б усцешыў Уладзіміра Караткевіча, вялікага знаўца і аматара беларускай прыроды.

Тут я смела стаўлю кропку. Эсэ, якое пачаў пісаць дзесяць гадоў таму, завершана.

2009, 2019




## Кнігі Васіля Быкава ў электронным і аўдыёфармаце

**У межах праекта «Лета з Быкавым», запачаткаваным Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Kniharnia.by, тры аповесці класіка нацыянальнай літаратуры Васіля Быкава «Бліндаж», «У тумане» і «Пакахай мяне, салдацік» з’явіліся ў папулярных аўдыёфарматах (у тым ліку для iPhone, iPod, iPad).**

Да ўсяго, чытачы могуць знайсці ў электронным фармаце ўсе выдадзеныя Саюзам беларускіх пісьменнікаў тамы з Поўнага збору твораў Васіля Быкава, а таксама яго зборнік-білінгву «Парадоксы жыцця» (па-беларуску і ў перакладзе на рускую мову Ірыны Шаўляковай).

На сайце Саюза беларускіх пісьменнікаў lit-bel.org можна бясплатна паслухаць першыя пяць раздзелаў кожнага з твораў Народнага пісьменніка Беларусі — раздзел «Бібліятэка / Аўдыёкнігі», а ў раздзеле «Бібліятэка / Электронныя кнігі» бясплатна спампаваць тэксты кніг.

# Вока Вечнасці



Сяргей ЗАКОННІКАЎ

## Шанц

*Усё пачалося якраз някепска,*
*Бо даўняе зло ўзялі на мушку.*
*І я ўжо зняў перад воляю кепку,*
*Але ўздзябурылі аблавушку.*

*Як галька, булькаюць словы ў аблудзе,*
*Ад іх бягуць — і кругі, і хвалі...*
*Былі ж умовы і годныя людзі,*
*Быў шанц...*
*Чаму не паспрабавалі?*

## Дзе Айчына?

*Мне давялося з’есці пуд*
*Зняваг, паклёпаў, быццам солі.*
*Хлусня і гвалт надоўга тут*
*Верх узялі над праўдай, воляй.*

*Тут болей мёртвых, чым жывых...*
*Нашто яшчэ шукаць прычыну,*
*Калі пытанне б’е пад дых:*
*“Дзяржава ёсць,*
*А дзе Айчына?”*

## Дно

*Жыццё без мэты не мае сэнсу,*
*Жыццё без праўды не лечыць сіла.*
*Не трэба прарокаў і экстрасэнсаў,*
*Каб бачыць, што нацыю падкасіла.*

*Прыдумваюць тысячы новых версій,*
*Але прамой не стане крывая...*
*Дно апынулася раптам уверсе,*
*Яно даўно ўжо нас накрывае.*

## Вока Вечнасці

*Хто ты ў бясконцым, халодным*
*Сусвеце?*
*Іскра, якую не згледзіць ніхто!*
*Вечнасць адна толькі ўвагай прывеціць,*
*Бо ў ёй і вусце, і кволы выток.*

*Вечнасць за кожным сочыць нядрэмна,*
*Быццам праз павелічальнае шкло,*
*Нас падбадзёрвае, што недарэмна*
*Плынню нястрымнай*
*жыццё працякло*
*Так, як прыдумана,*
*Так, як пазначана,*
*Так, як адпушчана доляй было.*

## Настаўнікі

*У мяне шмат настаўнікаў было,*
*Хоць сапраўдных, разумных — не густа.*
*Ды яны запалілі ў душы святло,*
*Надзялілі праўдзівасцю, густам.*

*Я цяпер стаю на хісткай мяжы*
*Між быццём і маўклівым смерцю.*
*Але невукі зноўку вучаць жыць...*
*Так ад гэтага смешна, паверце.*

## Лёгкі пыл

*Згадае кожны хрыч на свой капыл,*
*Якім шчаслівым быў жыцця пачатак...*
*Але і ён успомніць лёгкі пыл*
*На ножках загарэлых у дзяўчатак.*

## Чмялі знікаюць

*Чмялі знікаюць...*
*Ад весткі такой*
*Наскрозь прабіў халадок мне грудзі.*
*З душы назаўсёды ўцякае спакой:*
*Як жыць, калі іх на Зямлі не будзе?*

*А люд набівае дабром хатулі,*
*Яго не праб’е навіна ніякая.*
*Я згіну, ды хай застаюцца чмялі...*
*Балюча мне вельмі...*
*Чмялі знікаюць...*



Калаж www.websmi.by

## Я думаю

*Сябе назаві закончаным лохам,*
*Калі чагосьці табе не стае...*
*Збліжэннем са смерцю мяне не спалохаць,*
*Я дзякую існасці і за яе.*

*Пакуль яшчэ не прыкрылася века,*
*Пакуль чарговай трывогай жывы,*
*Я думаю ўвогуле пра чалавека,*
*А гэта занятак — на злом галавы...*

## Шахматы

*Мне не страшна гуляць чорнымі,*
*Хоць за белымі — першы ход,*
*Бо ў жыцці доўга поўз пячорамі,*
*Пакуль раптам не бліснуў усход.*

*Ні ў зямлянку, ні ў хату новую*
*Шчасце звонку не прыйдзе дарма.*
*Ты — заўсёды першаасноваю,*
*Перамог без адвагі — няма.*

## Там, дзе паляць архівы

*Інквізіцыя былая яшчэ не ўваскрэсла,*
*Ды праўду сагналі з высокага крэсла...*
*Будзе заўсёды народ нешчаслівым*
*У краінах, дзе пастаянна*
*паляць архівы.*

## Экстаз

*Старых і дзяцей цягне ўлада да статуй,*
*Вірують фанаты ля іх.*
*На пляцах паўсюль маршыруюць*
*салдаты,*
*Гром ботаў з вайны не аціх.*

*Парады, салюты і гімны слых песцяць,*
*Жыццё — як суцэльны экстаз...*
*Дыктатар заводзіць лірычныя песні,*
*Яму падпявае спецназ.*

## Усё аднолькавае

*Абрыдла бачыць толькі паказуху,*
*Стаміўся ад пустой хлусні.*
*Экран з адным і тым жа “зухам”*
*Засушвае на карані.*

*Як не палічыш існаванне драмай,*
*Сатканай з шэрасці падзей,*
*Калі і сон цяпер таксама,*
*Нібыта недалужны дзень?*

## Цень тырана

*Цень тырана доўга жыве,*
*Не засне, як рэха ў гарах,*
*Бо пасяляецца ў галаве,*
*Пераражаецца ў страх.*

*Так заведзена з даўніны,*
*Звычка нагадвае бедлам...*
*Хлусяць і забіваюць яны,*
*Адказваць жа трэба нам.*

## Нетыповы ветэран

*На скроні ямкі ад зубоў кастэта,*
*Іх тры, бо, кажуць, Тройцу любіць Бог.*
*Бязрадасная тэма для паэта,*
*Але, прабачце, абмінуць не мог.*

*Стаяць за праўду цяжка*
*ў часе зманным,*
*Бывае, не лягчэй, чым на вайне.*
*З ног збітым прафесійнаю*
*камандай*
*Ачуньваць доўга давялося мне...*

*Фальшывы люд зноў пнецца*
*ў ветэраны,*
*Хто ні пры чым, той кожны —*
*ягамосць...*
*Але навошта выдумляць пра раны?*
*Я маю іх,*
*І знак на целе ёсць.*

## Дома

*Вандроўкі па свеце прынеслі мне*
*Вялікі запас любові.*
*Яна выступае, як пот на спіне,*
*Ва ўчынках любых і ў слове.*

*Жыццё святым пачуццём атулю,*
*З ім буду да рысы вядомай...*
*Крывёй адчуваю глыбока Зямлю,*
*Таму я заўсёды — дома.*

## Хлопчык у бэзавай кашулі

***“Заради одного такого хлопця***
***варто штурмовати Крим”.***
***Водгук у інтэрнэце***

*“Ще не вмерла...” — гімн загучаў зняцку,*
*Да святой слязы ён вучня расчуліў.*
*Зашчымела душа, і выбег з заняткаў*
*Слаўны хлопчык у бэзавай кашулі.*

*Той выпадак у Крыме — не адзіны,*
*У адказ на нахабства (брат на брата!)*
*Па вушах б’е горды спеў Украіны,*
*Бы сігнал прадажнікам пра расплату.*

*Мова як абярэг натхняе душы,*
*На каленях ёй не стаяць ніколі.*
*Ад Карпатаў да стэпаў скрозь нязрушна*
*Будзе жыць заўжды “і слава, і воля”.*

*Заглушае гімн хлусню і пагрозы,*
*Будзіць тых, што ў прастрацыі заснулі.*
*Ненька, ненька!*
*Помні святыя слёзы —*
*Слёзы хлопчыка ў бэзавай кашулі.*

## Два сцягі

*Будзе ў братніх народаў*
*шчаслівы працяг,*
*Ды чамусьці плывуць і плывуць*
*ва ўспаміны*
*На шматкі разарваны*
*наш радасны сцяг*
*І прастрэлены прапар*
*сястры-Украіны.*

## А паэты вам гаварылі

*А паэты вам гаварылі:*
*Шанаваць трэба роднае,*
*Людзі,*
*Бо чужога хлеба скарынка*
*Ратавальніцаю не будзе.*

*А паэты выснілі песні,*
*Іх напоўнілі гордым духам.*
*Праўду горкую шчыра неслі...*
*Толькі вы не хацелі слухаць.*

*А паэты ў часы навалаў*
*Станавіліся ў шэраг вояў*
*І ў баях жыццё аддавалі*
*За свой край,*
*За слова жывое.*

*Зноўку здраднікі волю ўкралі,*
*Зноў для пошасці межы адкрылі.*
*Пустадомкі і боўдзілы краю*
*Кашу брыдкую заварылі.*

*А паэты вам гаварылі...*

## Лёс

*Куплялі, куплялі — не купілі,*
*Плявалі, плявалі — не заплявалі,*
*Гнулі, гнулі — не сагнулі,*
*Білі, білі — не забілі...*
*Я рук не падніму ўгару,*
*Лёс — не зломак,*
*Сам над вершам пампу.*

## Засохлыя кветкі

***Майму ўнуку Францішку***

*Засохлыя кветкі з лугоў ці палеткаў,*
*У том па гісторыі хтосьці паклаў.*
*Душу растрывожылі радасці сведкі,*
*Дыхнула хвалюючым водарам траў.*

*Чытаю, спакой мой кідаецца ў прочкі,*
*Бо гулкае рэха ляціць з даўніны...*
*Маўчаць паміж кніжных старонак*
*званочкі,*
*А неба калышуць і рушаць званы.*

## Родная мова

*Нас адвучалі ад роднае мовы:*
*“Хлеб на стале маеш?*
*Ну і жыві!”*
*Ды пралічыліся — невыпадкова*
*Матчына слова пульсуе ў крыві.*

*Мы не паступімся вечнай асновай,*
*Хоць будзе многа пакутаў яшчэ...*
*З цела народнага родная мова*
*Толькі апошняй крывінкай сцячэ.*

## Не за тым

*У маленстве, калі галадалі,*
*Луста хлеба нам засціла зрок.*
*А галоўнае ў вечным заданні*
*Адкрывалася ўсё ж незнарок.*

*Перадалі або недадалі —*
*У жыцці не на гэтым стаім.*
*Я прыходзіў у сінюю далеч*
*Не за тым...*
*Далібог, не за тым...*

# «Се оставлѧетсѧ вамъ



Ала НІКІФОРСКАЯ

**Дом наведала дзевятнаццатага. Першы раз пасля ад'езду.**

Усё кінулі-рынулі ў спешцы, у марозе, у роспачы — быццам перад мангола-татарскім нашэсцем.

Пятага снежня прыехалі ў Гродна Манюня (цётка — маміна сястра), мама і я... У маю мінімальную прастору, разлічаную савецкімі этыкай, эстэтыкай і законам на аднаго чалавека...

Спачатку народ (народ — гэта мама і Манюня, такі вось незвычайна малакалькасны, у складзе двух чалавек, народ) хацеў заставацца дома на ўсе сорак дзён пасля пахавання бацькі...

Чамусьці Неба гэтую задуму не падтрымала: пачаліся моцныя марозы (25–27 градусаў), забраць іх мне не было на чым, і мама, даведзеная холадам да адчаю, прасіла ў трубку: «Давай паедзем без ложка, мы паляжам на падлозе, абы толькі было цёпла...».

Ложак хацелі прывезці прыцэпчыкам (да машыны), але ў дзядзькі зусім развалілася машына... (Каб не пералічваць тыя дэталі і часткі, у якіх я нічога не разумею, я напісала агулам: зусім развалілася. Бо з яго — дзядзькавага — аповеду блізка таго і выходзіла).

Нас прывёз мой траюрадны брат Міша Галавач. Яшчэ аднаго такога блізкага і дарагога чалавека ў сусвеце, на жаль, я не маю: мне гэта больш ніхто не зрабіў бы...

Выйшаўшы з аўтобуса Гродна–Навагрудак не на прыпынку, а як заўсёды — каля дома, і, убачыўшы роўную заснежаную прастору, не кранутую ніякімі слядамі, я, ступіўшы некалькі крокаў ад дарогі, адразу загаласіла — наколькі мне дазвалялі мае сілы і аб'ём лёгкіх...

Я галасіла... А прастора маўчала...

Можа, яна мяне і не чула. Такая белая і нежывая...

І вёска не чула. Бо вёска (не хаты, а менавіта людзі) пачыналася крыху далей...

Мы жылі адасоблена: хаты вакол былі або пакінутымі, або знесенымі...

Але я галасіла не для прасторы і не для вёскі. І не для каго. Можа, гэта была нейкая абарончая рэакцыя, нечаканая нават для мяне самой, каб не памерці...

Мяне ўпершыню ніхто не сустракаў. На дарозе мяне ўжо даўно не сустракалі, толькі — дома...

Той час, калі пры Манінай бярозе стаяла мама, а з ёю Шарык і Фанарык, незваротна адышоў у мінулае...

Але дом яшчэ да нядаўняй пары жыў.... Свяціў вокнамі... Размаўляў галасамі... Дыхаў... Спрачаўся... Сварыўся... Наколькі гэта было магчыма — радаваўся...

У апошні мой прыезд (а ён быў ранні — у палове восьмай) бацька сядзеў каля круглага стала ў зале (у нас кажуць «на хаце») і выглядаў у акно, каб адчыніць мне дзверы. Я яшчэ не паспела падысці да дзвярэй, як ён адамкнуў...

Гэта было трынаццатага лістапада, у суботу, а васямнаццатага бацькі не стала...

І гэта ўжо гісторыя: мінулае — жывое — балючае...

Жыццё падзелена — распалавінена — разрэзана — на да і пасля...

Каля Маніных варот сядзеў Шарык. Я прыпынілася, паклікала яго два разы: «Шарык! Шарык!..» Ён глядзеў разгублена: хіба спалохаўся майго енку... Нават не зварухнуўся. Хіба што і выбег сюды, пачуўшы мой енк... І толькі на трэці зварот ён замітусіўся, падбег, заскакаў каля мяне...

У двор мы ўжо ўвайшлі разам: я — галосячы, Шарык — моўчкі.

Высокі, пухлы, нават нейкі ўрачысты снег...

Так падыходзіць піраговае цеста... Вельмі любіла спрабаваць яго на смак, калі мама расчыняла пірагі... У нейкім далёкім — іншым — увогуле ці маім? — жыцці...

На гэтай урачыстай снежнай паверхні былі злёгку абазначаны толькі Шарыкавы сляды...

Замок не адразу адмыкнуўся — ад плачу, ад непаслухмянасці рук...

Я і па хаце хадзіла галосячы...

Халодныя, няўтульныя, з параскіданымі рэчамі, найбольш адзеннем, пакоі...

Я і далей галасіла б... Але Шарык быў галодны...

Шарык і Фанарык патрапілі ў гэтую жыццёвую чалавечую драму ў розныя перыяды свайго жыцця: Шарык — у канцы, кот Фанарык — напачатку... Іх ніхто не захацеў узяць — ні за грошы, ні за так: кожны меў сабаку і ката, або аднаго з іх, а хто не меў, той і не хацеў мець.

Добра гледжаныя і пакінутыя (нават узяць ката не было магчымасці ні па маёй прасторы, ні па маіх абавязках: цётка — ляжачая, крыху сядзячая, на першай групе; маме — восемдзесят чатыры, вельмі мала чым адрозніваецца ад Манюні), яны штодзённа прысутнічалі ў нашым суме, у нашым маўчанні, і, вядома, — у слязах... Манюня так і плакала: «А мой ты Шарычак, а дзе ж ты цяпер?..». Да ўсяго Фанарык быў вельмі вольным у сваіх паходах — і па адлегласці і па часе, у замкнёнай гарадской мікрапрасторы ён не змог бы жыць... Мама сядзела на канапе і гаварыла: «Я бачу сваю хату, Шарыка і Фанарыка...» Я ёй забараняла вымаўляць гэтае бачанне... Яно адгукалася болем. А болю і так хапала: усё ж галоўнай прычынай быў адыход чалавека...

Пра Шарыка і Фанарыка я таксама помніла і шкадавала іх. Але ў вачах часцей за ўсё стаяў дом... Ён нібы ператварыўся ў жывую істоту: яму было холадна, яму балела ад суцэльнай цішыні і ад пераважна доўгай зімовай цемры... Ад адсутнасці галасоў і крокаў, ад дотыку рук і вачэй, ад усіх прыкмет жыцця...

Неяк з мамай, яшчэ дома, мы пагадзіліся на тым, што страшна, калі памірае чалавек. Але страшней, калі памірае дом...



Фота Святланы Фёдаравай

Дом меў непрацяглую і — так не хочацца пісаць гэтае слова, таму што я яго ніколі не любіла і не ўжывала — нешчаслівую гісторыю. Фактычна яго жыццё супала з жыццём аднаго чалавека — бацькі... Дом закончылі будаваць у 1958 годзе, перабраліся ў новы дом па сведчанні мамы і Мані ўвосень. Больш дакладна сказаць — назваць хаця б месяц — не могуць ні адна, ні другая. Праўда, Манюня сцвярджае, што было яшчэ цёпла: яна мыла падлогу на верандзе, а да яе па нейкіх справах прыехаў на матацыкле Канюшкевіч, старшыня калгаса... На студні яшчэ і цяпер ёсць выбіты надпіс: 30 чэрвеня 1958 г.

Я нарадзілася ў старой маленькай хатцы, збудаванай адразу пасля вайны, а дакладней — пасля вызвалення вёскі ад немцаў, але зруб новай хаты на час майго нараджэння быў ужо пастаўлены...

Я заўсёды з нейкім халодным страхам чытала гэтыя словы: «Се оставлѧетсѧ вамъ домъ вашъ пустъ», якімі завяршаецца трынаццаты раздзел Евангелля ад Лукі...

Я быццам прымярала іх да сябе — да свайго жыцця, да свайго дома...

Я разумела, што некалі надыдзе час, калі дом будзе пустым...

І некалі надыдзе час, калі я застануся адна ў гэтым доме...

І яшчэ адно некалі: надыдзе час, калі і мяне не будзе ў гэтым доме... Сама я чамусьці не стварыла дома... Не ўмела? Не хацела? Не было так задумана Госпадам? А дакладней — не прадоўжыла дома...

Цяпер я, як і ў маладосці, не ведаю: стварэнне — прадаўжэнне — роду — дома, кажучы евангельскімі словамі, — гэта «съ небесе» или «от человѣкъ»...

Але...

У Шарыка гэта ўжо была другая пакінутасць... Ён прыбіўся да Манюні з крыху дальняй вёскі даўно. Манюня, добрая душа, заўсёды давала прытулак чужым пакінутым і выкінутым пасярод дарогі сабакам і катам... Пасля яе інсульта, якому ўжо тры з паловай гады, Шарык разам з ёю — гаспадыняй, перасяліўся да нас. Хаты стаялі побач, таму для Шарыка перасяленне было вельмі ўмоўным.

Каля хаты, яшчэ не адмыкнуўшы дзвярэй, я, як звычайна, клікала і Фанарыка... Але ён не прыйшоў. І так было зразумела, што кот замерз, не вынес марозу. Ён быў вельмі дамашні і ручны. Ручны — хутчэй гэта маміна прыналежнасць: Фанарык найболей любіў сядзець у мамы на каленях, лапкі часта клаў на грудзі — як дзіця... Часам ляжаў, скруціўшыся клубочкам. Мама цярпела. Толькі зрэдку праганяла: «Фу, Фанарык, смярдзіш рыбай...» Або — сялёдкай... Гэта было тады, калі ў яго рацыён патрапляла рыба... Сядзеў у яе на каленях падчас яды, мог палажыць на стол лапкі... Калі такое бачыў бацька, звычайна казаў: «Яны ўжо ядуць з адной талеркі».

Кот быў разумны: ведаў усе хады і выхады ў хаце — з двух бакоў, сам адчыняў дзверы, не ўмеў іх толькі зачыняць. І то, напэўна, толькі з той прычыны, што не даставаў да клямкі, таму што ў туга зачыненыя дзверы ён упіраўся сваім маленькім целам, і дзверы абавязкова яму паддаваліся — адчыняліся насцеж. Яшчэ большае здзіўленне выклікала тое, што з адваротнага боку Фанарык адчыняў іх адной лапай. Дзе ён браў толькі сілу! Ноччу будзіў мяне сваім мяўканнем і ішоў да дзвярэй, каб я яго выпусціла на вуліцу па нейкай патрэбе... Калі доўга не ўставала, спрабаваў адчыніць сам...

Поўсць у яго чорная, бліскучая... У дадатак — да розуму. І я часта казала, што наш Фанарык — арыстакрат. Або — інтэлігент... Але гэтыя дзве назовы ніколі не былі клічкамі, хутчэй — як каставая прыналежнасць... Праўда, ён заслужыў у мамы і зусім супрацьлеглую прыналежнасць. Неяк ранкам, выйшаўшы на двор, яна яго клікала, а ён не рэагаваў, і за гэта катова непаслушэнства атрымаў ад мамы злоснае: «Фанарка! Дураша!» Я, стоячы каля газавай пліты на вясновай ці летняй (ужо не помню) верандзе, засмяялася... Але «дураша» засталося як найменне, хоць амаль і не выкарыстоўвалася ніколі...

Адклікаўся ён на «Фанарык» заўсёды. Асабліва, калі клікала яго я. Хутчэй — па прычыне яды. Трубіла на ўсю акругу, як у рог: «Фанарык! Фанарык!» — разоў колькі... І праз хвіліны дзве-тры, а то калі і болей, у залежнасці ад таго, дзе ён знаходзіўся, Фанарка з'яўляўся... Ці то з агародаў, ці то з боку чужых двароў, ці ад дарогі...

Імя сваё Фанарык атрымаў ад мяне: наша кошка Мурка прынесла яго да парога ў зубах. Нешта чорненькае, маленькае, падобнае вельмі на цацку — коцік у боціку. Калісьці былі такія. Гэты коцік у боціку (без боціка) забіўся пад падрубу і свяціў адтуль толькі два сінія агеньчыкі, як маячкі, — вочкі... Але святло было такой моцнай сілы, што я ў сваім здзіўленні адразу і выпаліла: Фанарык... Не таму, што я не ведала перакладу гэтага слова на беларускую мову, проста ў нас у абыходзе так і называлі гэты прадмет... Так прадметна-рэчыўная назова стала назаўсёды імем. Праўда, потым вочы кардынальна змянілі сваю афарбоўку і сталі звычайнымі катовымі зялёнымі вачыма...

Паколькі ката не было, карміць мне прыйшлося толькі Шарыка. Паўкілаграма лівернай каўбасы Шарык праглынуў у адно імгненне. Я не паспявала рэзаць... Гэта была жудасная галодная карціна. Я толькі яго папярэдзіла, як чалавека: «Шарык, глядзі, каб табе не было дрэнна ад такой колькасці ежы».

Потым я хадзіла да Анюты, да цёткі Валі — забраць пенсіі, да Франца Міхайлавіча, каб даведацца, у колькі ён будзе ехаць на Гродна...

Пасля дома збірала нейкія дробныя рэчы, якія патрэбна было ўзяць з сабой, а з нядробных — паўмяшка цукру.

На стале запаліла свечачку перад іконай свяціцеля Мікалая... Дзевятнаццатага снежня — менавіта яго дзень. Менавіта яму я даручыла дом і папрасіла ўсё зберагчы — перад нашым ад'ездам... Менавіта ён — свяціцель Мікалай — традыцыйна, гадоў некалькі запар, у свае дні, дарыў мне цікавыя падарожжы ў Беласток і Брэст... І толькі ў гэты год ён даў мне гэтае падарожжа — усё з болю і журбы: я быццам перажыла ў другі раз пахаванне бацькі...

Прымаю і гэта, ойча Мікалай...

Перад ад'ездам я выйшла, каб пакласці ў хляве яду, якую я прывезла для Шарыка: хлеб, пячэнне, кравяную каўбасу... (Шарыка Манюня прывучыла есці цукеркі і пячэнне, ён іх вельмі любіў.) На дварэ гэта пакінуць было нельга: з'елі б чужыя сабакі... А так запас ежы быў зроблены на некалькі дзён. У дзвярах хлява была шчыліна, у якую пралазіў Шарык, ён там жа і начаваў.

І — о Божа мой! — якое было здзіўленне, калі з плота, з Манінага боку, выйшаў... Фанарык... Значыць, тое «мяў», якое я ўспрыняла як слухавую галюцынацыю, мне не падалося. Ён вельмі мала быў падобны на арыстакрата ці інтэлігента, але гэта быў усё роўна Фанарык... Поўсць не блішчала, не была шоўкавай, а ўскудлачанай. Ён быў худы і малы ў параўнанні з ранейшым Фанарыкам. Да ўсяго ён... смярдзеў: два тыдні бамжавання не прайшлі бясследна. Але ён быў жывы. Ён крычаў сваім асіплым, прастуджаным, бездапаможным і вельмі моцным голасам сваё «мяў»... Ён рваўся ў дом, як прарываюцца з блакады ў жыццё... Ён драпаў лапкай дзверы і не разумеў, чаму яны не адчыняюцца. А

# ДОМЪ...»

дзверы былі туга зачыненыя на клямку. Потым, калі я адчыніла, ён з такім жа адчаем прасіўся — крычаў у другія дзверы, за якімі была кухня...

Напэўна, Фанарык прыходзіў дадому кожны дзень і крычаў, крычаў...

І прасіў, і патрабаваў дапусціць яго ў дом — па закону яго — катовай прыналежнасці... І не разумеў, чаму і, галоўнае, за што так жорстка і нечакана адлучылі яго ад цяпла, ад гаспадыніных каленяў, ад яго такога наладжанага і ўтульнага катовага жыцця...

У апошні час ён рэдка выходзіў з хаты: ляжаў то на канапе, то на адным, то на другім ложку, не сходзіў з маміных каленяў... І мы з мамай казалі, што гэта перад канцом. Што ён адчувае разрыў жыцця па-жывому...

І нават у такім выглядзе Фанарык заставаўся на вышыні: ён не дакрануўся да ежы... Ён быў філосаф, і болей таго — ахвярнік: што яму тая ежа, калі зачынены дом! Кускі кравяной каўбасы валяліся на падлозе і на снезе каля парога... Мы з ім у сваіх галашэннях былі ў нечым падобнымі...

Я зняла са сцяны ў сенях стары пінжак (калісьці быў мой, цяпер — нікому не патрэбны), закутала ў яго Фанарыка, прытуліла яго да сябе і панесла яго па хаце. Несла і расказвала, і паказвала: тут цяпер холадна, тут ужо не можна сагрэцца, тут болей не жывуць людзі... Ён нічога не зразумеў. Ці, можа, адмаўляўся разумець. Я вынесла яго на вуліцу, ён прадаўжаў няшчадна енчыць і драць лапкай дзверы. Ён забіваўся ў сенях пад сходкі і не хацеў выходзіць. Я была ў адчаі. Ад яго крыку. Ад таго, што ён нічога не з'еў... А Шарык яшчэ адгаяў яго ад кускоў заснежанай каўбасы...

Я так і паехала ў адчаі. Душа доўга не мела спакою. Пайшоў адзін чалавек — і парушылася жыццё астатніх. І нават гэтых істот.

У панядзелак вечарам я паказвала (у камп'ютары) учарашнія здымкі: заснежаны дом з фасада і з вуліцы, на першым з іх на парозе — сабака; кот — на другім парозе, у сенях... Мой народ плакаў... Хацела сфатаграфаваць Шарыка аднаго... Як толькі паднясу фатаапарат да твару і набліжуся да сабакі — уцякаў, колькі меў сілы... Баяўся, чамусьці. Я рашыла яго не палохаць. Дастаткова здымка — дом, а на парозе Шарык... Ён чакае людзей... Можа, ён лепш ведае, што яны сюды вернуцца... Яны таксама спадзяюцца на гэта. Хоць надзея вельмі слабенькая, да ўсяго яшчэ — пад моцнай зімовай тоўшчай снегу...

***P. S.*** Роўна праз тыдзень у тэлефоннай размове з цёткай Валяй я даведалася, што Фанарыка ўзяў да сябе Іван Любін... Я ўздыхнула: хоць адна радасная навіна...

— Скажыце, што я прынясу яму бутэльку, як прыеду, і дам што-небудзь з бацькавага адзення...

Фанарык там не з'есць сыра ці каўбасы, але жыць будзе...

А на Шарыка ўпала яшчэ адно «няшчасце»... Ён бегаў да сваіх знаёмых сабак — Джэка Анюціната і маленькага Мухтара цёткі Валі. Там калі-нікалі нечым жывіўся... Джэка заўсёды праганяў са свайго двара (а на нашым двары і для Джэка было што з'есці!), цяпер прыйшла яго чарга хадзіць да Джэка... Мухтар — яшчэ шчанюк, але рос вельмі хутка. Якраз для сяброўства ён болей падыходзіў Шарыку... Маленькім гуляў з Шарыкам: абапрэцца лапамі на спіну або карак і ездзіць так па двары... Цяпер быў прыгожы бежава-мышастай поўсці каладачык... Выбег на дарогу — задушыла машына...

Цётка Валя расказвала: Шарык прыходзіць, ідзе ў сені, у хату, бяжыць пад хлеў — шукае Мухтара... Уставіцца ў яе вочы, нібы пытае, дзе ты яго падзела?..

Мы ўсе шкадавалі Мухтара... Быццам нам мала было сваіх шкадаванняў, дадалося і яшчэ адно...

***PP.S.*** У другую паездку — 16 студзеня — дом выглядаў яшчэ больш пакінутым... Шарыкавы сляды на снезе былі даўнімі і ледзь абазначанымі... Цётка Валя сказала (пасля, калі я да яе пайшла), што Шар сядзіць у яе на надворку, а начуе ў хляве... «Вельмі не люблю, што ён бяжыць за мною, калі куды іду. Дык ужо накрычу, тады не ідзе: сядзе і сядзіць...», — расказвала цётка Валя. У кожнага свой стыль жыцця: за Манюняй Шар заўсёды і ўсюды бегаў неадступна, са мной таксама любіў усюды хадзіць... Неабавязкова было клікаць — Шарык! — Шар! — Шаруня! — Шарка!.. Ён ішоў сам. Асабліва на аўтобусны прыпынак, калі я ад'язджала на Гродна... Гэта стала ўжо яго сабачай традыцыяй...

І ўсё ж на мой розгалас па ўсёй акрузе: Шарык! Шарык! Шар! — ён праз некалькі хвілін з'явіўся... Я паспела падумаць, што Шар ужо не прыйдзе... Я памылілася... Ён прыбег... Ліверную каўбасу ён еў ужо не з такім голадам, як у мінулы раз... Астатнюю ежу я аднесла да цёткі Валі: яна будзе яму выдзяляць пакрыху... Шар хадзіў за мною ўсюды; калі я ад'язджала, выбег з двара і сеў каля Манінай бярозы: на супрацьлеглым баку дарогі я чакала машыну... Начаваць застаўся дома, а назаўтра прыйшоў да цёткі Валі.

Шкада! Я не ўбачыла Фанарыка. Міхайлавіча не было дома. Хадзіла два разы — з бутэлькай і бацькавым плашчом... Выпадкова ён быў у цёткі Валі, калі я ёй званіла... Калі ён прынёс Фанарыка дадому ў першы раз, каты пагрызліся... А іх у яго — пяцёра. Фанарык сышоў ізноў у чужыя хлявы. Пасля Міхайлавіч злавіў яго ў другі раз... Усё-такі хацелася б, каб Фанарык у гэтым катовым калектыве неяк прыжыўся...

Ці плакала я?.. Плакала. Толькі болей ціха і стрымана. І — у зачыненай і выстуджанай прасторы дома...

# З пакалення пакліканых

**Нядаўна, 4 сакавіка, магло б споўніцца 60 гадоў адной з найталенавіцейшых паэтак пакалення 80-х — Таццяне Зіненка.**

Я шчырая, надрыўная паэзія патрапіла ва ўнісон з часам, аказалася сугучнай думкам і спадзяванням свядомай часткі айчыннай інтэлігенцыі. Панаваў перыяд нацыянальнага ўздыму, калі пасля застойнай задухі Беларусь літаральна захліснула хваля сапраўднага, а не падманна-камуністычнага, патрыятызму — з шанаваннем традыцый, вяртаннем да мовы продкаў, са змаганнем за Незалежнасць. Як грыбы пасля дажджу, узнікалі маладзёвыя літаратурна-мастацкія суполкі: «Майстроўня», «Тутэйшыя», «Талака», «Світанак», «Паходня»... Зянон Пазняк, Анатоль Сыс, Алег Мінкін, Алесь Бяляцкі, Язэп Янушкевіч — гэта быў час пакліканых асоб, місія якіх заключалася ў абуджэнні прыспанага нацыянальнага духу беларусаў.

Таццяна Зіненка настаўнічала на Барысаўшчыне, але знаходзіла магчымасць прыязджаць на паседжанні суполак, удзельнічала ў знакамітым мітынгу на «Дзядах» 1988 года.

Сваім вершам-выкрыкам пад назвай «Двухмоўе», апублікаваным тады ў «Настаўніцкай газеце», яна агучыла галоўную праблему свайго народа і сваёй краіны:

*...А госці нашы — на кутах,*
*У нас такая завядзёнка.*
*Яны, лічы, ў гаспадарах,*
*А мы і наша мова — звонку.*

На жаль, яна вельмі рана зняверылася ў паэзіі, у каханні, у жыцці... А найперш — у сабе, бо калі літаратар не адчувае зваротнай сувязі, то раней ці пазней змаўкае. Нельга заўсёды быць данарам. І Таццяна Зіненка зазнала незайздросны лёс пары — люмпенска-пралетарскі Барысаў высеснуў сваю самую таленавітую паэтку на ўзбочыну жыцця. Агонія працягвалася пару дзясяткаў гадоў, а пасля надышоў цалкам заканамерны і непазбежны фінал.

Апошнія гады паэтку нават не хацелі друкаваць — яе вершы бязлітасна выкідалі з калектыўных зборнікаў, наўмысна ігнаравалі... Што ж, гісторыя расстаўляе ўсё па сваіх месцах, і ў будучым імёны пераследнікаў, у адрозненне ад вершаў Таццяны Зіненка, паглыне прагная Лета... Але і тады заставаліся нешматлікія сябры-аднадумцы, якім зрэдку ўдавалася «праціснуць» падборку з ранейшых вершаў у рэспубліканскі друк, каб хоць крыху, хоць капеечным ганарарам аблегчыць яе фізічнае існаванне...

...Часам здаецца, што яны сапраўды жывуць, падпарадкоўваючыся нейкім звышнім, нянаскім законам — вылятыя паэты-бадзягі, нязручныя для любой створанай людзьмі сістэмы. Бо іх нельга выкарыстаць у карыслівых мэтах. Катэгорыі, якімі яны мысляць — вышэйшага парадку. Яны прыходзяць адтуль і вяртаюцца туды, на сваю Радзіму — у Валадарства Слова.

Сёння ёсць магчымасць яшчэ раз сустрэцца з дзівоснай паэзіяй Таццяны Зіненка — адшукаліся недрукаваныя раней творы, частку з якіх мы і прапануем увазе чытачоў.

**Янка Лайкоў**

# У засені зазімнага крыла...



Таццяна ЗІНЕНКА

* * *

*«...Як выткала яго я да вяселля*
*Па завядзёнцы нашага сяла*
*І прычакала на галоўку вэлюм,*
*Дык самаю прыгожаю была.*
*У васямнаццатым было мне васямнаццаць.*
*На два гады старэйшым быў Максім.*
*Ён за Саветы рады быў змагацца,*
*Але пайшоў аднойчы назусім...»*
*...Твар заірдзеўся, вочы пасвялелі.*
*Ды схамянулася, нібыта што не так...*
*Не дыхаючы, мы з сястрой глядзелі*
*То на бабулю, то на андарак...*

* * *

*Я правяла цябе не назаўжды.*
*Я не была, а ёсць. Дазволь мне гэта.*
*А паміж намі проста халады*
*Неспадзявана, сярод красак лета...*
*Я правяла цябе не назаўжды...*

* * *

*Ішоў тады невыпадковы снег.*
*Шалёны снег... А зараз толькі восень.*
*Але яна таксама — не дай Бог...*
*Так будзе вечна. Што ж, няхай і так.*
*Абы не ўмерці і абы мне ведаць,*
*Што першы снег не хоча раставаць.*
*Ну а калі на міг усё ж растане,*
*Народзіцца яшчэ не раз ізноў.*
*Народзіцца, народзіцца — я знаю!*
*І не кажы мне болей ні пра што.*
*Маўчы, маўчы — я так хачу маўчання,*
*Бо я — яго законнае дзіця...*

* * *

*А мне на Вас глядзець не наглядзецца*
*І да канца не разгадаць ніяк.*
*Мой неспадзеўны чалавек-дзівак,*
*А мне на Вас глядзець не наглядзецца.*
*У Вас, напэўна, стомленае сэрца?*
*Зірніце ж на мяне хаця б няўзнак.*
*А мне на Вас глядзець не наглядзецца*
*І да канца не разгадаць ніяк.*

* * *

*Ну што сказаць мне Вам яшчэ?*
*Хіба майго маўчання мала?*
*Здаецца, доўга я маўчала,*
*Ну што сказаць мне Вам яшчэ?*
*Сваіх захопленых вачэй*
*Не адвяла і не схавала.*
*Ну, што сказаць мне Вам яшчэ?*
*Хіба майго маўчання мала?*

* * *

*Трывожнае растанне не парушу.*
*Пакрочу моўчкі да свайго сяла.*
*У засені зазімнага крыла*
*Трывожнае растанне не парушу.*
*О, колькі ў Вашым позірку святла! —*
*Замнога — у маю зямную душу.*
*Трывожнае растанне не парушу,*
*Пакрочу моўчкі да свайго сяла.*

* * *

*У вачах маіх не скончаецца*
*Па табе туга несусветная,*
*І каб ты яе не спалохаўся,*
*Я паволі вочы заплюшчваю,*
*І так моцна, каб ні слязіначкі —*
*Ні тужыначкі не прабілася.*
*І тады ўжо ты не натолішся*
*Цалаваць мяне, цалаваць мяне...*

* * *

*...І на гэтым жа месцы*
*Праз некалькі дзесяцігоддзяў*
*Белы камень паўстане,*
*Які нават час не кране.*
*І калі Вы аб ім*
*Распытаеце ўсё ў народзе, —*
*Дык пачуеце гэту легенду*
*Пра Вас і мяне.*

**Публікацыя Антона Клімовіча**



Віктар СЛІНКА

# Далячынь дасягаецца проста…

## 4 красавіка 2019

*Неба даўно ўжо не яснае*
*І не здзіўляе гром*
*Прывыклых у сонным рабстве*
*Жыць — і да скону дзён.*

*Зламаны*
*Крыж*
*Курапацкі*
*Сведчыць, што нас няма?*
*Дзе, вы-*
*ва-*
*рат-*
*ні*
*Сумленняў,*
*Людскасць шукаць?*
*Дарма.*

*Ды будзе*
*Апошняй*
*Справай*
*На*
*Абарону*
*Вам*
*Тых, без труны пахаваных,*
*Клікаць з крывавых ям.*

* * *

*Я выпіў*
*па-за часам за сваіх,*
*Я чарку ўзяў пры нараджэнні маці,*
*І я здалеў адвечнае закляцце*
*Быць толькі там, дзе ёсць, сярод усіх.*
*Нам пры сканчэнні трызніцца пліта*
*Ці кніжная паліца надмагіллем,*
*А мы ўсё скачам паміж тут і там*
*І ганарымся, дзіўныя, бяссіллем.*
*Ты адшукай мяне ў сівых дварах,*
*У чыстай плыні, сіні вечаровай.*
*Сінічкі голас выцвіў?.. Знаеш, дах*
*Аблокаў стрэшкай свеціць ганаровай.*

**16 красавіка 2019**

## Ля дарог

*…Адхіляючы праўду,*
*кідаюць слоўцы ў адказ,*
*нібы жартам*
*прасейваюць праз рэшата*
*з ячэямі для фасолі*
*пшаніцу,*
*насмешна кажуць:*
*«Смотри, нет даже мякины —*
*ничего не осталось, всё упало в песок…»*

*Лузгаюць семкі,*
*чакаюць, хто што падасць*
*узамен*
*паданкаў-яблык.*

*Праезджыя*
*праязджаюць*
*міма праезджых.*

*Мурзатыя дзеці ў двары*
*глядзяць запытальна,*
*працягваюць рукі…*

*Зайздросная смеласць —*
*так*
*распараджацца чужым.*

**22 траўня 2019**

* * *

*Каб той, каго чакаеш, выйшаў,*
*Даводзіцца пабачыць непатрэбных,*
*Усіх, хто выйдзе да яго… І сузіраць*
*Іх твары, чуць размовы… Нават пах*
*Даносіць будзе вецер… Што з таго,*
*Калі цябе чакае ўзнагарода*
*І потым шлях супольны да канца?*
*Альбо — самому трэба йсці, навокал*
*Змяняць сабой, свае надаўшы рысы,*



Фота Анатоля Клешчука

*Няспынны вір стасункаў ды сустрэч,*
*І не прадаць адзінае, што маеш,*
*За ўсе дары, замкнёныя ў імёны.*

**Ліпень 2019**

* * *

*Ад гэтых слёз,*
*Паток лінуў каторых*
*З тваіх вачэй…*
*Ад гэтых слёз*

*Раптоўна — не так, як*
*Заўжды — развіднела,*
*І руіны палаца*
*Быццам наблізіў*
*Нябачны бінокль.*

*«Гэта момант*
*Такі,*
*А потым*
*Зноўку пойдзе жыццё,*
*Бы раней*
*Ішло…*
*Не пераробліваць жа*
*З-за імгненных празрэнняў*
*Туманнае пусткі дзён*
*На новы святочны лад!..» —*

*Так*
*Мяркуецца часткай цябе,*
*Каторая*
*Цікавіцца толькі адным:*
*Як узлезлі гэтак высока*
*Тыя,*
*Што пісалі свае паскудствы*
*На рэштках сцен*
*Ля самых байніц?*

**7 жніўня 2019**

* * *

*…А чэрапу — павага:*
*Звяртаюцца з павагай да яго*
*Ці нават робяць чару кругавую, —*
*Прыводзяць ёю мёртвых да жыцця,*
*Згадаўшы кожнага, чым слаўны хто…*
*А ты,*
*Калі выходзіш потым на сцяжыну*
*Ад капішча…*
*Увагі вартае хаця якое слова*
*Ці сказаў?*
*Ці быў*
*Учынак — чын?*
*<…>*

* * *

***В.***

*Ён цябе не шукаў і не клікаў,*
*Не растрачваў і не бярог.*
*Не была ты — ні кропкай адліку,*
*Ні вяртаннем нябеснай пазыкі*
*Ці звярыным клубком ля ног.*

*Не была ты няўдалаю спробай,*
*Але сціплаю весткай — была.*
*Без цябе — заставалася побач*
*У назыркіх праменнях святла.*

*І ніхто не шукаў і не клікаў,*
*Не растрачваў і не бярог…*
*Не была ты малой ці вялікай,*
*Не памылкаю і не пралікам, —*
*Зазірнуў у вакенца Бог.*

**15–16 кастрычніка 2019**

* * *

***Т. Р.***

*Для цябе ма́е сэнс, а пра іншых*
*турботу пакінь,*
*Дзе скончаецца ян, — і дзе*
*пачынаецца інь…*
*Вызначаць, адчуваць, што́ сілкуеш*
*карэннямі дня;*
*Гэта толькі твае ўсё; і —*
*кім называецца: я.*

*Ці кіроўца трамвая, ці скарбнік*
*далёка ў глушы,*
*Ці ў самотнай вандроўцы не спіш ты*
*пад дахам начы,*
*Чуеш пошум лясны…*
*А паскудных праяў частакол —*
*Тыя ўсе апынаюцца*
*проста ў разрадзе жывёл.*

*Нават горш за звяроў…*
*Але ты заставайся сабой*
*І заўжды правярай, ці ў дзвярах*
*некрануты прабой,*
*Ці замок насамрэч нечапаны,*
*ці — на вушаку*
*Ён падманна вісіць, і з жалезам*
*сціскаюць руку*

*Прама ў сенцах… Таму —*
*беражы ад усіх твае сны.*
*Там прыкметы дарог і мясцін —*
*самых-самых, адных, —*
*Не паблытаць ні з чым… Не раўняць:*
*дараваць — і дарыць,*
*Заставацца й стаяць, а яшчэ:*
*патухае — гарыць.*

**22 кастрычніка 2019**

## У майстэрні шаўца

*…А ты папрасі вярнуць*
*Абцасы*
*Ад тваіх чаравікаў,*
*Цвёрдаю гумай падноўленых,*
*Зрэзаныя напалову,*
*Стаптаныя наўскасяк… —*
*Каб можна было пакратаць.*
*А зерне ў таемных сусеках*
*Чакае таго, хто ідзе*
*Сцежкаю з поля.*

**Лістапад 2019**

* * *

*За тваёю спінай*
*вырашаецца нешта.*
*Ці не за цябе?*
*Далятаюць адно адгалоскі,*
*абрыўкі размоў.*
*Не падыходзіш бліжэй, каб не падумалі,*
*быццам хочаш пачуць.*
*Гэта — вестка?*
*Гнілазубая ўсмешка лёсу?*
*Перамаўляюцца*
*выпадковыя мінакі?*

*Разліты*
*атра́мант аблокаў*
*на барву ўзыходу. Глядзіш…*
*Удыхнуўшы паветра адвагі,*
*Да таго, што наперадзе прад табой,*
*Звяртаешся моўчкі:*

*— … Ці прыходзіць?*
*І як?*
*— З вераю, без спадзяванняў,*
*прыходзь.*

**Снежань 2019**

* * *

*…Слухмяна-мілы*
*Раб*
*Імперскі,*
*Перабіраючы*
*Паперкі,*
*Здзьмуваючы архіўны пыл,*
*Пабачыў, хто ягоны продак, —*
*Галіна дрэва радаводу, —*
*Што ён рабіў — і чым ён жыў.*

*Натрапіў так невыпадкова*
*На веліч спраў, змагання, слова,*
*На тыя дзеі, бітвы, дні,*
*І не мінулае — былое,*
*А — уваскрэслае, жывое*
*Адбілася ў вачах хлусні.*

*Слухмяна-мілы*
*Раб*
*Імперскі,*
*Які прыняў чужое зверства,*
*Жадаў, аднак жа, не таго:*
*Шукаў ён апраўдання здрады*
*І кляў, хто гэнае*
*Парадзіў,*
*А наастачу — і…*
*Яго.*

**21 студзеня 2020**

# Пісьменнікі нашага краю

**Даўней беларусы-ліцьвіны мелі багатую і разнастайную літаратуру. Пісьменнікі стваралі тады на некалькіх мовах: на агульнаеўрапейскай мове культуры і навукі — лацінe, на стараславянскай, якой карысталася праваслаўная царква. Але найбольш чытачоў мелі творы, напісаныя на дзяржаўнай беларускай мове, што была зразумелая кожнаму жыхару Вялікага Княства Літоўскага. Аднак у выніку Люблінскай вуніі Княства з Польскім каралеўствам узмацніўся ўплыў польскай мовы. Урэшце яна стала дзяржаўнай моваю ўсёй Рэчы Паспалітай. Калі Беларусь-Літва патрапіла ў царскую імперыю, на змену польскай мове прыйшла расейская. Пасля паўстання 1863 года каланізатары забаранілі ўсялякі друк на беларускай мове. Яны не забылі, як гуртавала змагароў беларуская «Мужыцкая праўда».У тых умовах большасць пісьменнікаў краю мусіла пісаць і друкавацца па-польску. Між тым сярод майстроў прыгожага пісьменства мацнела думка, што дзеля будучай незалежнасці роднай зямлі трэба вяртацца да сваіх вытокаў і ствараць для народа на ягонай мове.**


SZLACHCIC
ZAWALNIA
CZYLI
BIAŁORUŚ
W FANTASTYCZNYCH OPOWIADANIACH
PRZEZ
JANA BARSZCZEWSKIEGO.
Poprzedzone krytycznym rzutem oka na Literaturę Białoruską
PRZEZ
ROMUALDA PODBERESKIEGO.
Z ryciną Rud. Żukowskiego, przedstawiającą główne sceny opowiadań.
PETERSBURG.
W DRUKARNI KAROLA KRAJA.
1844.

Пецярбургскае выданне кнігі Яна Баршчэўскага, 1844 г.



Уладзімір АРЛОЎ

## Песні з-над Нёмана і Дзвіны

У нашых аповедах вы не раз сустракалі імя ўдзельніка таварыстваў філаматаў і філарэтаў паэта Яна Чачота, сябра Адама Міцкевіча і рэдактара ягонай першай кнігі. Чачот пісаў і па-польску, і па-беларуску. Міцкевічу вельмі падабаліся менавіта творы на мове продкаў. Ведаючы гэта, Ян прысвяціў яму верш «Едзе міленькі Адам» і беларускамоўную п'есу, якая, на жаль, не захавалася.

У сваіх польскамоўных баладах «Навагрудскі замак», «Калдычэўскі шчупак», «Падземны звон на горцы ў Пазняневічах», «Свіцязь» Чачот абапіраўся на беларускую гісторыю, народныя паданні і казкі. У «Спевах пра даўніх ліцьвінаў» ён апеў даўніну Вялікага Княства. Героямі гэтай вершаванай гісторыі Айчыны сталі Міндоўг, Гедзімін, Альгерд, Вітаўт, Давыд Гарадзенскі…

Найкаштоўнейшая для нас частка зробленага Янам Чачотам — шэсць зборнікаў пад агульнай назваю «Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны». Там паэт-фальклярыст сабраў амаль тысячу народных песняў, прычым значную частку надрукаваў не ў перакладзе, а па-беларуску. У прадмове да выдання Чачот пісаў пра асаблівасці беларускай мовы і яе будучы прапавіс, бо верыў, што «крывіцкая гаворка» мае вялікую будучыню.

## Беларусь у фантастычных апавяданнях

Аўтар кнігі «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (якую параўноўваюць са славутай «Тысячай і адной ноччу») — выпускнік Полацкай акадэміі, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі.

Дзяцінства пісьменніка, народжанага ў сям'і вуніяцкага святара пры канцы XVIII стагоддзя, прайшло ў вёсцы Мурагі па-над возерам Нешчарда на Полаччыне.

У гады полацкага студэнцтва Янка склаў па-беларуску верш «Дзеванька». Ён быў прысвечаны каханай юнака — панне Максімавічанцы з Мурагоў і хутка стаў папулярнай у Прыдзвінні песняй. Яшчэ адзін беларускі верш Баршчэўскага «Гарэліца» часта дэкламавалі і ў шляхецкіх дварах, і ў сялянскіх хатах. Пра падзеі ў родных мясцінах у 1812 годзе Ян напісаў беларускае вершаванае апавяданне «Рабункі мужыкоў». У ім сяляне прыхільна сустракалі напалеонаўскую армію і дзялілі маёмасць ненавіснага гаспадара, што ўцёк разам з царскімі генераламі.

Закончыўшы Акадэмію, Ян Баршчэўскі пераехаў у Пецярбург. Выкладаў там грэцкую і лацінскую мовы, выдаваў разам з суайчыннікамі-беларусамі літаратурны альманах «Незабудка». Шмат дало яму знаёмства з Адамам Міцкевічам і украінскім паэтам Тарасам Шаўчэнкам.

Выконваючы даручэнні марскога міністэрства, Баршчэўскі наведаў Фінляндыю, Вялікабрытанію, Францыю. Але штовясны ён браў у рукі кій, закідваў за плечы дарожную торбу і пешкі выпраўляўся з Пецярбурга на родную Полаччыну. Там збіраў паданні і легенды, казкі і аповеды пра заклятыя скарбы і ваўкалакаў, вужыную карону і цмока, што вылупіўся з пеўневага яйка, пра полацкіх алхімікаў-чарадзеяў і вядзьмарку Белую Сароку…

З тых запісаў і нарадзілася самая славутая кніга пісьменніка, надрукаваная ў 1844–1846 гадах у Пецярбурзе. Яе герой шляхціч Завальня жыве на беразе Нешчарды і заўсёды дае прытулак падарожнікам, просячы іх за гасціннасць раздічыца цікавай гісторыяй з незвычайнымі прыгодамі. Ян Баршчэўскі выдаў свой твор па-польску, але ў кожным радку там гучыць Беларусь. Пісьменнік сваёй кнігаю сцвярджаў, што Беларусь — край з непаўторнай гісторыяй ды культурай і заслугоўвае лепшай долі.

Працягам «Шляхціча Завальні» стала казачна-філасофская аповесць «Драўляны Дзядок і кабета Інсекта» (напісаная таксама па-польску). З яе можна даведацца пра гісторыю загадкавай механічнай галавы з музея Полацкай акадэміі. Галава гаварыла на безліч моваў і ўражвала наведнікаў мудрымі адказамі на самыя складаныя пытанні.

Сёння кнігі Яна Баршчэўскага выдаюцца шматтысячнымі накладамі ў перакладах па-беларуску. Паводле іх здымаюцца кінафільмы і ставяцца спектаклі. Выкладчыкі і студэнты Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, што займаюцца ў колішніх будынках Акадэміі, мараць пра помнік аўтару «Шляхціча Завальні» ва ўніверсітэцкім двары.

## «Зайграй, зайграй, хлопча малы!»

Шмат якія творы Яна Баршчэўскага ў XIX стагоддзі пашыраліся ў рукапісах. Адзін з іх перайначыў лёс іншага творцы — Паўлюка Багрыма.

Паўлюк вучыўся ў школе пры касцёле ў роднай вёсцы Крошын Навагрудскага павета (цяпер яна ў Баранавіцкім раёне). Хлопчык захапляўся літаратурнымі заняткамі, асабліва паэзіяй. Спярша ён перапісваў у вучнёўскія сшыткі вершы старажытных аўтараў Гамера і Эзопа ды паэзію земляко́ў, а потым і сам стаў складаць вершы.

У 1818 годзе крошынскія прыгонныя сяляне выступілі супроць увядзення новых цяжкіх павіннасцяў. Шукаючы завадатараў бунту, царскія следчыя заявіліся і ў касцельную школу. Яны высветлілі, што вучань Багрым чытаў аднавяскоўцам са свайго сшытка «возмутительный» верш Яна Баршчэўскага «Рабункі мужыкоў».

Злачынствам было названае і складанне Багрымам уласных вершаў, дзе юнак наракаў на паднявольную долю беларусаў. Багрыма прымусілі даць пісьмовую клятву, што такіх вершаў ён пад страхам цяжкага пакарання перапісваць, пісаць і чытаць ніколі не будзе. Настаўнікі спадзяваліся, што тым усё і абмяжуецца. Яны памыліліся: пятнаццацігадовага Паўлюка аддалі ў рэкруты.

З напісанага Багрымам да нас дайшоў усяго адзін верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы…», але і ён сведчыць пра адметны талент аўтара.

Герой верша шкадуе, што ў дзяцінстве на яго не сеў кажан. Паводле народнага павер'я, той, на каго апусціцца гэтая істота, больш не вырасце і застанецца малым.

Багрыму пашчасціла вярнуцца з цяжкай салдацкай службы на радзіму. Ён працаваў у Крошыне кавалём і дасягнуў у кавальскім рамястве высокага мастацтва. У гэтым пераканаецца кожны, хто ўбачыць у Крошынскім касцёле створаную Паўлюком дзівосную свяцільню-жырандолю з жаўрукамі. Здаецца, што Паўлюк Багрым выкаваў адзін са сваіх вершаў.

## Друкарня ў Лондане

Верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы…» упершыню пабачыў свет у сярэдзіне XIX стагоддзя ў невялікай лонданскай друкарні, будынак якой захаваўся да нашых дзён. Яе заснаваў паўстанец 1831 года Аляксандр Рыпінскі, што амаль трыццаць гадоў вымушана пражыў далёка ад родных мясцін. У брытанскай сталіцы колішні паручнік змагарскіх сілаў зрабіўся прызнаным фатографам і мастаком, ды галоўным ягоным захапленнем была літаратура.

Рыпінскі пісаў спачатку па-польску, але з дзяцінства, праведзенага на Віцебшчыне, ён ведаў і любіў беларускую мову. Жывучы адразу пасля паўстання ў Парыжы, ён напісаў і выдаў кнігу «Беларусь». Там ішла гаворка пра вусную народную паэзію, а яе творы былі ў кнізе надрукаваныя па-беларуску. Аляксандр Рыпінскі сцвярджаў, што «гэтая паэзія надзеленая чарадзейнай сілай і ў ёй хаваюцца невычэрпныя крыніцы мовы, на якой можна стварыць нацыянальную, вольную ад чужаземнай літаратуру».

Былы ваяр за свабоду і сам пачаў ствараць на роднай мове. У Лондане ён надрукаваў сваю дасціпную баладу «Нячысцік». Яе герой, селянін Мікіта, парушыў царкоўную забарону і закалоў парсючка на каўбасы не калі-небудзь, а ў хрысціянскі Вялікі пост. У выніку да Мікіты і завітаў узрадаваны нячысцік…

Аляксандр Рыпінскі разам з іншымі тагачаснымі пісьменнікамі карыстаўся не кірылічнымі літарамі, а лацінкай. Так выдаваў сваю «Мужыцкую праўду» і Каліноўскі. Беларуская лацінка мела датуль ужо доўгую гісторыю. На ёй, напрыклад, дайшла да нас старадаўняя «Хроніка Быхаўца». Заслугай Рыпінскага было тое, што ён адным з першых увёў ва ўжытак літару «Ў».

Калі з'явілася магчымасць, Аляксандр Рыпінскі прыехаў на радзіму. Жывучы пад наглядам паліцыі, ён пісаў гісторыю айчыннай літаратуры і дапамагаў маладым літаратарам, што таксама ўсвядомілі сябе беларусамі.

## «Мроі пра каханне, славу і свабоду»

Жыхары царскай імперыі добра ведалі прымаўку: «У Расеі два праваднікі: язык — да Кіева, а пяро — да Шлісельбурга». Шлісельбург быў сінонімам слова «турма», бо ў Шлісельбургскай фартэцы трымалі самых небяспечных «дзяржаўных злачынцаў». Праўдзівасць гэтай прымаўкі пацвярджае лёс польска-беларускага пісьменніка Аляксандра Незабытоўскага.

Аднойчы ўначы ў 1847 годзе царскія служкі перахапілі на мяжы фурманку з незвычайнай кантрабандай — кнігамі ды рукапісамі. Раз-пораз у іх сустракалася імя абшарніка Незабытоўскага. Той напярэдадні вярнуўся ў імперыю з еўрапейскага падарожжа і накіроўваўся ў свой маёнтак Смалічы пад Нясвіжам. У канцылярыю віленскага генерал-губернатара паляцеў ліст аб тым, што захопленыя кнігі і паперы выкрываюць аўтара ў лютай нянавісці да ўрада і ў пошуках сродкаў узбунтаваць «Северо-Западный край», каб адарваць яго ад Расеі.

Вальнадумец апынуўся ў адзіночнай камеры віленскай турмы. Наглядчыкам сувора забаранілі размаўляць з вязнем, паведаміўшы, што ягонаму пяру належаць нейкія асабліва злачынныя «сочинения». Такімі палічылі сем выдадзеных Незабытоўскім у Вільні і Парыжы кніг. Асаблівую цікавасць у следчых выклікалі мемуары пра гераічныя і трагічныя падзеі 1831 года і раман «Мроі пра каханне, славу і свабоду». У рамане аўтар пісаў пра справядлівы лад, які ўсталюецца ў Літве-Беларусі, калі радзіма вызваліцца ад расейскай няволі.

Менавіта за гэтыя два творы царскае «правасуддзе» адмерала маладому пісьменніку, філосафу і гісторыку дваццаць гадоў сібірскай катаргі і пазбавіла Незабытоўскага шляхецкіх правоў. Адправіць у Сібір безнадзейна хворага на сухоты Незабытоўскага не паспелі. Увесну 1849-га Аляксандра пахавалі на турэмных могілках. Яму ішоў трыццаты год.

У нясвіжскай вёсцы Смалічы ў гонар пісьменніка-вальнадумца пастаўлены мемарыяльны знак. Адбылося гэта толькі ў 1990-я, калі Беларусь здабыла дзяржаўную незалежнасць.


Фота www.wikimedia.org

# Вясна! Вясна!


Стэйн СТЭЙНАР

**Стэйн Стэйнар (Адалстэйн Крыстмундсан, 1908–1958) — ісландскі паэт, паходзіў з простай сям'і, нейкі час быў прыхільнікам камуністычнай утопіі. Пачаўшы з вострасацыяльных традыцыйных вершаў, пазней фактычна стаў пачынальнікам мадэрнізму ў паэзіі Ісландыі.**

### Сходы

*Гэтыя сходы, відаць, —
як і іншыя сходы
ў іншых будынках.
У піўніцы
і на верхнім паверсе,
такія сціплыя, ветлівыя
для ўсіх людзей,
называюць яго.*

*І тут ён быў,
бо дом, пабудаваны
за паўстагоддзя ці нават больш,
і бачыў і чуў усё, што адбывалася
у гэтым доме
як летам, так і ўзімку,
вясной і ўвосень.
Такім ціхім і сур'ёзным,
як яно сёння,
ён заўсёды быў,
ці йшлі дзеці або пажылыя людзі
ягонымі слядамі,
ці жыхары дома
ладзілі тут вяселле,
ці былі пахаваныя —
такія мудрагелістыя
гэтыя сходы,
гэткія незразумелыя
ў прастасці сваёй —
як само жыццё,
як рэальнасць
па-за рэальнасцю.*

**Каля 1934**

### Спеў пра Хрыста

*Вечар быў.
А мы сядзелі ў садзе,
двое бедных дзяцей.
І мы глядзелі, як сонца
Заходзіць
за горы,
недзе далёка.
Бывае гэтак дзіўна чалавеку,
калі чалавек юны,
што сонца мусіць знікнуць
з нябёсаў
за далеччу гор.
Гэтак вось чужая рука
пазбаўляе чалавека
забаўкі яго.*

*І мы,
што на вечар не зважалі
у цішы яркага дня,
сядзелі моўчкі ў захапленні
ад тае чорнай сцяны,
для нас непераадольнай,
ноч прыспела.*

*І сядзелі мы ў садзе,
двое бедных хлапцоў,
і тады якраз
я пра тваю таямніцу пачуў,
пра вялікую тайну тваю,
якой раней не ведаў
на свеце ніхто.
Яна была такой прыгожай
і незвычайнай,
то была самая пекная тайна свету.
І мы сядзелі й шапталі
адно аднаму
незвычайныя словы,
што прабіралі наскрозь,
пра сонца,
якое было заззяць павінна
мацней і ярчэй,
чым хоць калі раней,
і пра людзей,
што былі б такімі добрымі з дзецьмі,
«І тады ўсе людзі сталі б, —
пачуў я ад цябе, —
добрымі такімі,
як кветкі.
І тады нам не трэба было б
баяцца цемры,
бо начы не будзе, калі ён
свет наш збавіць прыйдзе».*

*І сядзелі мы ў садзе
пад ноч
дзве тысячы гадоў таму,
двое бедных дзяцей.*

**1936**

### Сон

*Сон
пра
святло —
вось жа мы снілі сон пра святло
неяк ноччу, калі змрок цяжэйшы
й цямнейшы быў,
калісьці, аднак, даўней.
Было нешта такое,
што сплывала й сплывала
шчасліва-дрыготкім болем
на нашы душы.
Збянтэжыліся вочы нашы,
напоўніцу здзіўлёныя
ў паглядзе светлым, ясным,
што воддаль сцэны пабліскваў
раз-пораз.
І нехта з нас запытаўся
так нерашуча:
што гэта?
А другі адказаў
ажывіўшыся:
Святло, святло!*

**1936**

### Вясна

*Два жаўтабровыя птахі
над сіне-белай прасторай ляцяць.*

*Дзве краскі малыя дрыготкія
рудымі ківаюць галоўкамі
над чорнымі пяскамі.*

*Двое бледных дзяцей-жабракоў
брыдуць камяністым берагам
і гукаюць нерашуча й захоплена
вандроўнаму ззянню:
«Вясна! Вясна!»*

**1937**

### Вердэн

*Вялікай таямніцы, не вядомай анікому,
тут месцам стаў прыгожы месяц май.
Тады зайшлася ў вусцішы й жалобе
мая душа, засмучаная ўкрай.*

*Вясна, і зноўку белая буяе квецень,
святло, дзе ўзгор'е і далін мурог.
Мая душа ў былым даўно лунае свеце.
Глядзі сюды! Тут я ў магілу лёг.*

**1937**

### Старое крэсла

*Сядзеў звычайна бацька ў крэсле тут —
стары, стамлёны, ў мазалях далоні.
Прыйшоў са свету шумнага і кут
знайшоў, які прытуліць, абароніць.*

*Ці ўспомніш, як яму займала дых,
як ледзь сагнуцца мог стары й руінай
здаваўся шмат каму; яго штоміг
магло папросту змыць жыцця лавінай.*

*Вакол старога мір быў і спакой,
не трэба нават з месца падымацца —
няважна, ён ці ты парой начной
хацеў сыйсці… ці тут застацца.*

**1939**

### Шукаю я цябе

*Шукаю я цябе, ты ж — не мяне,
і ўрэшце мы губляем свой імпэт
у недасяжным досвітку, і не,
не ўбачым мы адно аднога след.*

*О, так мы й не спаткаліся з табой,
утомна сэрцу ў забыцці й журбе.
Табе нялюбы, мрою вобраз твой
і, не спазнаўшы, трачу я цябе.*

**1941**

### Веснавыя строфы

*Ціхія ўздыхі,
ночы блакітнасць
вабяць мой клёк.*

*Шчасце маё
не цікава нікому,
нават здалёк.*

*І мае вершы —
гэта нібыта
пустка і змрок.*

**1941**

### Першапасяленец Ісландыі

*Быў я чалавечкам
малым, да калена.*

*І я лёг ды заснуў
між двума валунамі,
што ўздымаліся там
па той бок і па гэты.*

*А калі прачнуўся,
зоркі ўсе пазнікалі.
Ды я сам зрабіўся
гэткімі валунамі.*

**1942**

### Белы конь у ззянні поўні

*Ён белы: як крылы
маіх першых мрой,
ягоная грыва
бялее скрозь цемру.*

*Вандроўкай — доўгай такой —
на льняна-белым кані
ёсць наша быццё.*

*І смерць, ад якой
не ўцячы ані,
ўчапілася ў грыву яму.*

**1954**

### Выгляд роднага берага

*Край мой Ісландыя, боль мой, туга,
слабасць мая, часу мой супраціў,
пустак акрыленасць на берагах.
Край, ты трываеш, жывеш, як і жыў.*

*Бачыш, хоць ты мне — калыска ўсіх мрой,
ганьба ўсім родным, народу й табе:
ты ж — як ныдара, і ў ганьбе твой строй,
сорам ты мой, кроў і слёзы ў журбе.*

**1955**

### Крэмль

*Смерць сама,
д'ябал сам
гэты мур глухі збудавалі.*

*Змрочна, холадна, неразумна
атачаюць яны
нянавісці полымя,
хлусні пачатак,
вобраз злачынства.*

*Змрочна, холадна, неразумна,
як Грааль,
Грааль Ліха.*

**1956**

### Думка

*Я ў небяспечнай стоме,
а побач стромы адхон.*

*Аголеная дама
гуляе няспешна
з шэрым катом.*

*Стары ў жоўтай камізэльцы
на лаўцы, заклапочаны.
Ён кажа:*

*— Ойча наш у небе,
ўвесь свет аплочаны.*

**1957**

**Пераклаў з ісландскай мовы
Лявон Баршчэўскі**

# «Выходзілі на шлях»

## Пра першую аповесць Аляксея Карпюка
## Да 100-годдзя з дня нараджэння пісьменніка

Альжбета КЕДА

...Прайсці праз пекла вайны, канцлагер, партызанку, цудам выжыць у баях за Берлін і пасля шпіталю трапіць у педагагічны інстытут, — хіба гэта не шчасце? Быццам у рай трапіць. Бо малады, хоць і зранены, хоць і нашпігаваны асколкамі, а ўсё ж жывы, шчаслівы, што жывы, што вакол аднаўляецца жыццё. І хоць нялёгка, бо і голадна, і холадна, а ўсё ж самае жудаснае перажыта. Так было ў жыцці Аляксея Нічыпаравіча Карпюка і ў жыцці героя ягонае першае аповесці «У адным інстытуце» Косці Грушэўскага.

Напачатку пра гісторыю напісання твора. Калі першы сакратар Сапоцкінскага райкама Яцкевіч «пад выглядам ачысткі кадраў ад непажаданага элементу ў пагранічным раёне» дамогся звальнення з працы непакорнага загадчыка райана Карпюка, таго накіравалі дырэктарам Біскупскай школы ў Ваўкавыскі раён. І хоць працы і тут было вельмі шмат (апрача асноўнае, педагагічнае, яшчэ і будаўніцтва школы, шматлікія грамадскія абавязкі, сакратарства ў калгаснай партарганізацыі), усё ж час для напісання аповесці можна было «урваць». Жаданне пісаць узнікла раней. З даваеннага часу меў Карпюк вернага сябра, літаратара Уладзіміра Калесніка, з якім падзяліўся сваёю задумаю. Той, як згадвае Карпюк, «пазнаёміў з Янкам Брылём. Першая сустрэча з Іванам Антонавічам так уразіла мяне, што я раптам адчуў сябе нічым у параўнанні з сапраўдным пісьменнікам. Мне здалося, што я задумаў немагчымае, і стала нават сорамна за свае нясціплыя жаданні. Але мінуў тыдзень-другі, і мяне зноў пацягнула да пісання. Тады я зрабіў для сябе важнае адкрыццё: гонар, незадаволенасць сабой, упартасць, нават у нейкай ступені злосць і зайздрасць — дабрадзейства для чалавека: яны могуць з цябе здабыць такое, чаго ты і сам ад сябе не спадзяешся» («Мая Джамалунгма»).

Той, хто ведае творы пісьменніка, хто чытаў ягоныя ўспаміны, не будзе здзіўлены такім павароце, зменамі настрою Аляксея Карпюка. Упартасць, імкненне давесці пачатую справу да канца заўсёды рабілі яго непераможным. І на шляху пісьменніцкае працы таксама.

Але ж — першая аповесць. «Восень, 1945 год. Пабітыя педінстытуцкія шыбы закладзены фанерай. У аўдыторыях, замест крэслаў, — з грубых дошак лавы...». Гэта пачатак твора. Такім быў пачатак студэнцтва Косці Грушэўскага, у якім было шмат рамантычнага, узнёслага. Было каханне. Пісьменнік не абмяжоўваецца аповедам пра няпростыя адносіны героя з прыгажуняй Аняй Дубравінай, з аднакурснікамі, з кіраўніцтвам інстытута. У сюжэтную канву ўплецены ўспаміны пра мінулае, лёсы многіх людзей. Да прыкладу, пакручастыя жыццёвыя шляхі сям'і Раманюкоў. Праз столькі гадоў, калі многае з напісанага тады адкідаем без шкадавання, бо насычана фальшам, аповесць Карпюка чытаецца. Аўтару не толькі ўдалося перадаць атмасферу радаснага аднаўлення жыцця, але і пра адмоўнае, балючае напісаць даволі смела. Чамусьці ніхто з даследчыкаў ніколі не згадаў твор як прыклад юнацкае аповесці...

Цікава чытаць першы твор Аляксея Карпюка, параўноўваючы яго з адпаведнымі старонкамі ўспамінаў «Развітанне з ілюзіямі», дзе раскрываецца тое, пра што пісьменнік не мог напісаць у пяцідзясятыя гады. Аўтар паказвае задушлівую атмасферу даносаў, калі людзей скоўваў страх, бо ўсе ведалі пра штодзённы начны хапун. Тое, што адбывалася ў педінстытуце, пісьменнік назваў «Мафіяй НКУ-Саўцаў».

Асабліва пачварна выглядае постаць лейтэнанта Чыркова, выкладчыка кафедры марксізму-ленінізму, які «за нешта праштрафіўся ў НКУС і да нас трапіў невыпадкова. Хтосьці вырашыў, што ў педінстытуце зарадзіліся нездаровыя імкненні, і паслаў яго да нас на ўмацаванне педагагічных кадраў. Жах, які гэта быў чалавек. Абмежаваны. Нахабны. Неахайны ў вопратцы, са стаптанымі абцасамі, у ніколі не чышчаных афіцэрскіх ботах і ў такім жа галіфэ неакрэсленага колеру. Затое самаўпэўнены і настырны. Ён адразу пачаў цкаваць выкладчыкаў».

Ахвярамі гэтага монстра сталі многія. А першымі адукаваныя, прыстойныя, сумленныя выкладчыцы англійскай мовы Фаіна Квяткоўская і Марыя Мінц. Аўтар малюе сцэну партсходу, на якім гаспадарыць Чыркоў. Чаго варты ягоны зварот да рэктарату: «Бездакязныя разгільдзяі, куды вы глядзіце?». А што кіраўнік установы адукацыі? Запратэставаў на гэтае жудаснае хамства? Ні слова ў адказ, калі Чыркоў «тыцнуў пальцам у абмярцвелага рэктара». НКУСавец прыводзіць цытату Сталіна пра пошук класавага ворага. Ягоны маналог поўніцца пагардай і нянавісцю да адукаваных калегаў: «Растапырыліся тут, панімаеш, самі і людзям дазволілі растапырыцца!.. Нічога, неўзабаве давядзём вас да кандыцыі, я за гэта вазьмуся! Развялі тут буржуазную гніль!.. А калі яна агентка ЦРУ і спецыяльна падасланая да нас?.. Шчэ трэба разабрацца, ці яна адна? Шчэ трэба прыгледзецца да яе абаронцаў. Напэўна, тут гняздо ў іх!..»

«Пад уладай чырковых» адбываюцца страшныя рэчы. Ва ўсім горадзе, ва ўсім Краі рэпрэсіі набіраюць моцу. Але — пра тое, што адбывалася ў адным інстытуце: «Нават сёння памятаю тую раніцу — жудасна-страшную, калі мы ў інтэрнаце раптам даведаліся, што яшчэ ўчора з пасады рэктара знялі нашага любімага Уласаўца і на яго месца прызначылі п'яніцу і нікчэмнасць. Мала таго, ноччу ў пакоях інтэрната... зрабіліператрус, пасля чаго арыштавалі студэнтаў Кісяля, Старадубцава, Барэвіча, Матэчку, Пілецкага. А за імі забралі выпускнікоў — Смоліча, Чурылу, Майсеню і Генаша. Узялі Барэвіча, выкладчыка Гайдучыка ды яшчэ і яшчэ...» (Даведка: Уласавец Мікалай Васільевіч прапрацаваў на пасадзе рэктара з 1944 па 1949-ы, пасля яго Малюкевіч Іосіф Мікалаевіч, адпаведна: 1949–1955).

З тых часоў у архіве Аляксея Карпюка засталося некалькі здымкаў. Нехяк паказала іх на лекцыі слухачам УЗВ. На адным група філолагаў у час заняткаў. «Гэта мае бацькі», — азваўся адзін з маіх залатых студэнтаў... Успаміны аднакурсніка Аляксея Карпюка вартыя асобнага артыкула. А вось пра здымак выпускніка з букетам і дыпломам не згадаць нельга. Вельмі прыгожы малады чалавек, са смелым, адкрытым поглядам, у святочным гарнітуры, белай кашулі, пры гальштуку. І ўзнагароды часоў вайны. Захапленне, радасць, гонар (вось яно, маладое пакаленне, якое ўступае ў жыццё: адукаваныя, прыстойныя, сумленныя) выклікае здымак. Але, на жаль, гэта святочны бок падзеі, які не адлюстроўвае таго, што было насамрэч. Што тварылася ў сэрцы, у думках выпускніка педінстытута.

Зноў звяртаемся да старонак «Развітання з ілюзіямі». У беларускіх вёсках раней высока цанілі адукаваных людзей. Так было і на радзіме Аляксея Карпюка: «Атрыманне дыплома, аб якім у маёй вёсцы да вайны гаварылі як аб нечым недасяжным і магутным: ён бытта бы ўсюды для цябе адкрывае дарогу». Карпюку хапіла аднае размовы ў аблана, каб зразумець, як усё змянілася на гэтай зямлі. Як тое, што спрадвеку лічылася вялікай каштоўнасцю, пры новай уладзе дыскрэдытуецца, траціць сэнс: «Мяне аж перакасіла ад такога інструктажу, а дыплом здаўся звычайнымі вокладкамі з кардону, абклеенымі чорным дэрманцінам».

Фінал аповесці «У адным інстытуце» класічна аптымістычны. Здадзены выпускныя экзамены. Вясёлы гурт учарашніх студэнтаў накіроўваецца да Нёмана, які вабіць прыгажосцю, прахалодаю, таямнічасцю вечнага руху. Кудысьці далёка, наперад, да нейкае невядомае мэты імчыць магутная рака. «Гэтыя хлопцы і дзяўчаты таксама ўпарта імкнуліся да свае мэты. Зараз яны выходзілі на шлях, дзе іх жыццё будзе больш плаўным, упэўненым, шырокім». І як жа без пажадання: «Шчаслівай дарогі, сябры!».

Ведаем, што не стане яна шчаслівай. Што кінуты будуць гэтыя маладыя людзі ў самы вір «таго катаклізму, які зваліўся на мой край» («Развітанне з ілюзіямі»).

А што было тады, у тым далёкім 1953-ім, калі ў часопісе «Маладосць», дзякуючы Янку Брылю, была надрукавана аповесць «У маладыя гады»? З гумарам апавядае пісьменнік пра радасныя пачуцці, што перапаўнялі душу маладога аўтара, і пра цалкам абыякавую рэальнасць, у якой гэтым пачуццям месца не было: «Пасля выхаду яе ў свет паехаў у Гродна. Падзеі аповесці адбываюцца ў гэтым горадзе, там жылі мае прататыпы, і мне чамусьці здалося, што ўвесь горад павінен святкаваць сваё ўвекавечанне і быць мне надта ўдзячны. Тым часам ішоў я з вакзала па вуліцы Ажэшкі і з расчараваннем бачыў, што і дамы гэтаксама стаяць, як раней, і гэтаксама бягуць па тратуарах заклапочаныя людзі».

А далей зачын да таго, што застанецца па-за «Маёй Джамалунгмай». Не абавязкова, каб такое было насамрэч, але быць магло:

«Ля піўнога ларка стаяў мой сябар — адзін з герояў аповесці.

— Валодзя, здароў! — крыкнуў я з пераможнай радасцю.

— А, гэта ты? — чамусьці нахмурыўся сябар і адставіў куфар з півам. — Дык што ты там на мяне набрахаў у кніжцы?..

І пачаў закасваць рукавы»...



Аляксей Карпюк

Аляксей Карпюк нарадзіўся 14 красавіка 1920 года ў вёсцы Страшава каля Гарадка (цяпер Беластоцкае ваяводства, Польшча), памёр 14 ліпеня 1992-га ў Гродна. Беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч.

Скончыў сямігодку, вучыўся ў польскай гімназіі ў Вільні. У 1939 годзе паступіў у Навагрудскае педвучылішча. У гады Другой сусветнай вайны пайшоў у партызаны, трапіў у палон. У 1943 годзе ўцёк з лагера, арганізаваў партызанскі атрад. Пазней прымаў удзел у вызваленні Варшавы, Познані, штурмаваў Берлін. Пасля вайны паступіў на факультэт замежных моў Гарадзенскага педінстытута. Працаваў загадчыкам райана ў м. Сапоцкіна, дырэктарам школы на Ваўкавышчыне, у Гродзенскім педінстытуце, у рэдакцыях газет, загадчыкам агенцтва "Інтурыст" у Гродне, дырэктарам Музея атэізму і гісторыі рэлігіі, а з 1978 года ўзначальваў Гарадзенскае аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў...

Узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны I і II ступені, медалямі і залатым крыжам польскага ордэна «Віртуці Мілітары». Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1986) за кнігу «Сучасны канфлікт».

# Літаратура павышае... якасць жыцця

ЛБ

**Брытанскае выданне «MailOnline» апублікавала артыкул, у якім гаворыцца, што адмова ад кніг жанру nonfiction на карысць чытання больш складаных твораў літаратуры можа дапамагчы павысіць разумовую працаздольнасць мозгу і якасць жыцця.**

Выданне спасылаецца на новыя даследаванні прафесара Філіпа Дэвіса з Універсітэта Ліверпуля, які настойліва рэкамендуе людзям, якія пакутуюць на дэпрэсію, хранічныя захворванні і нават дэменцыю, чытаць, напрыклад, раманы Чарльза Дзікенса або Джэйн Осцін.

Вучоны адзначыў, што чытанне класічнай літаратуры «вызваляе эмоцыі і ўяўленне» і дазваляе чытачам адчуць сябе «больш жывымі», тым самым пазбаўляючы ад сімптомаў хваробы. А вось так званыя матывацыйныя кнігі ці літаратура self-help падобнай карысці не прыносяць, таму што працэс іх чытання занадта просты, каб узбудзіць актыўнасць чалавечага мозгу.

Прафесар Дэвіс сцвярджае, што ў часе чытання «Навальнічнага перавалу» Эмілі Брантэ або «Вайны і міру» Льва Талстога чытач адчувае эмпатыю, суперажываючы персанажам твора, што дазваляе ягонаму мозгу працаваць больш эфектыўна, тым самым паляпшаючы якасць жыцця. Павелічэнне эмоцый прымушае свядомасць чытача прапрацоўваць больш складаную і глыбокую працу, таму ён і адчувае сябе «больш жывым». А гэта, адзначыў вучоны, можа палягчаць сімптомы клінічнай дэпрэсіі, хранічных захворванняў і нават змагацца з дэменцыяй.

Прафесара Дэвіса працытавала і выданне «Sunday Times»: «Калі вы проста скануеце інфармацыю, вы чытаеце хутка, гэта вельмі проста і адбываецца аўтаматычна. А калі літаратура прымушае рабіць нешта больш складанае, мозг пачынае працаваць больш актыўна. Чытанне хвалюе, і мозг становіцца эмацыйным».

Уласная кніга Філіпа Дэвіса «Чытанне для жыцця» заснаваная на працах Ліверпульскага цэнтра даследаванняў у галіне чытання, літаратуры і грамадства, які вывучае «ролю літаратуры ў мадэляванні творчага мыслення аб чалавечым існаванні». Папярэднія даследаванні Цэнтра паказалі, што чытанне можа дапамагчы захаваць памяць у старасці.




Калаж www.novostiliteratury.ru

# Каранавірус і аўтарскае права

Хаг СТЭФЕНС,
hughstephensblog.net

**Свет перажывае пандэмію COVID-19. Кожны дзень прыносіць усё новыя і ўсё страшнейшыя прагнозы таго, што нас чакае наперадзе, што мы ўсе павінныя зрабіць, каб «згарнуць крывую», як гэта ўплывае на людзей, іх здароўе, эканомікі краін.**

Пандэмія — гэта праблема глабалізаванага свету, у якім мы сёння жывём. Яе наступствы будуць уплываць на тое, як мы будзем сябе паводзіць і ўзаемадзейнічаць у будучыні. Таму вельмі важна выконваць прынятыя і ўстаноўленыя правілы, якія рэгулююць нашыя паводзіны.

Эканамічны ўдар зрабіўся сапраўдным выпрабаваннем для многіх галін ды індустрый, для людзей, якія ў іх занятыя. І свет аўтарскага права не стаў выключэннем. Па свеце прайшла шырокая хваля звальненняў, сацыяльнае дыстанцыяванне прывяло да закрыцця забаўляльных устаноў, бібліятэк, галерэй, кнігарняў ды інш. У той жа час творчая супольнасць не разгублася і годна адказала гэтым выклікам, прапаноўваючы новыя інтэрнэт-рэсурсы для дыстанцыйнага навучання і забаў. Заканамерна, што выбухнула цікавасць да музыкі, аўдыя- і візуальных прадуктаў. Электронныя і аўдыёкнігі нечакана зноў набылі папулярнасць. Пакуль мы сядзім у самаізаляцыі, мы як ніколі спадзяемся на інтэрнэт для доступу да нашых навінаў, забаў і адукацыі. Змест і творчасць ніколі не былі важнейшымі, чым цяпер.

З гэтай прычыны вялікае расчараванне бачыць адмысловыя групы па інтарэсах, якія карыстаюцца крызісам, што выклікаў COVID-19, каб прасунуць свае асабістыя інтарэсы, якія існавалі яшчэ да пачатку пандэміі. Што тычыцца аўтарскіх правоў, гэта заключаецца ў выкарыстанні крызісу для спробаў разбурыць падмурак гэтых правоў, а менавіта права стваральнікаў кантраляваць распаўсюджванне сваёй працы і тым самым атрымліваць прыбытак ад уласных, створаных імі твораў. І гэта не адзіныя сілы, якія карыстаюцца пандэміяй для дасягнення сваіх мэтаў. Мы ўжо бачым, як антыэміграцыйныя і гандлёва-пратэкцыяніcцкія групы спрабуюць выкарыстаць глабальны крызіс у галіне аховы здароўя, каб сфармаваць свой свет пасля COVID-19. Гэтаму трэба супрацьпастаўляць праўду і называць рэчы сваімі імёнамі, бо нельга карыстацца страхамі людзей і пагражаць «экстранымі мерамі», якія, як яны спадзяюцца, у выніку зменяць увесь нарматыўны ландшафт, калі свет вернецца да «нармальнага» стану.

Што тычыцца аўтарскіх правоў, то ўпершыню «стрэл» быў зроблены Інтэрнэт-архівам ЗША, які заявіў, што адкрые вольны доступ у сваёй «Адкрытай бібліятэцы» да калекцыі з 1,4 мільёна кніг, якія ахоўваюцца аўтарскімі правамі. Метады, якімі дзейнічае Інтэрнэт-архіў, падвергліся ўжо крытыцы Гільдыі аўтараў, якая паставіла пад сумнеў заяву Бібліятэкі пра тое, што яна паважае аўтарскія правы і права выплаты ганарару аўтару (кнігу якога бяруць для чытання). Раней, калі Бібліятэка «пазычала» лічбавыя копіі карыстальнікам, яна, прынамсі, выконвала асноўныя правілы карыстання кнігай і абмяжоўвала доступ да «аднаго карыстальніка на фіксаваны час» гэтак жа, як звычайныя бібліятэкі падчас працы з электроннымі версіямі кніг. Аднак цяпер Інтэрнэт-архіў ЗША вырашыў пайсці далей і абвесціў, што адмяняе любыя абмежаванні на карыстанне кнігамі. Іншымі словамі, ён удзельнічае ў неабмежаваным, несанкцыянаваным капіраванні і распаўсюдзе твораў, выкарыстоўваючы пандэмію COVID-19 як падставу.

Альянс аўтарскіх правоў, асацыяцыя, якая знаходзіцца ў Вашынгтоне і прадстаўляе «вялікіх» і «малых» удзельнікаў рынку аўтарскага права, назвала гэта «рабаваннем аўтараў і парушэннем аўтарскіх правоў». І гэта вельмі дакладнае апісанне. Наўрад ці Інтэрнэт-архіў звяртаўся па дазвол да аўтараў. Замест гэтага ён у аднабаковым парадку вырашыў стаць шчодрым на чужую маёмасць. Творчая супольнасць адрэагавала на крызіс, выкліканы пандэміяй, зрабіўшы многія інтэрнэт-рэсурсы даступнымі бясплатна альбо знізіўшы цэны. Некаторыя аўтары сапраўды могуць адмовіцца ад даходаў на час надзвычайнай сітуацыі, але гэта мусіць быць іх рашэнне, а не Інтэрнэт-архіва.

Рэч у тым, што многія аўтары ва ўсім свеце спрабуюць «звесці канцы з канцамі». Гільдыя аўтараў адзначае, што сярэдні гадавы даход аўтара ў ЗША ў цяперашні час складае крыху больш за 20 000 долараў. Каб выжыць, многія пісьменнікі займаюцца іншымі працамі, і многія з іх працоўных месцаў былі ануляваныя ў цяперашнім крызісе. У гэты ж час можа ўзнікнуць попыт на твор аўтара, і гэта прынясе яму хаця б невялікія грошы, што стане добрай дапамогай творцу, каб выжыць у складанай эканамічнай сітуацыі.

Не трэба спасылацца на пандэмію пры парушэнні права аўтараў. Ёсць шмат іншых рэсурсаў, на якіх і школьнікі, і студэнты, што вучацца анлайн, і іншыя чытачы могуць скарыстацца патрэбнымі кнігамі. Універсітэцкія, грамадскія і школьныя бібліятэкі працягваюць працаваць у інтэрнэце. Інтэрнэт-кнігарні занятыя выкананнем заказаў. А ўсё вышэйзгаданае падобна на захоп электрастанцыі пад выглядам аказання паслуг насельніцтву падчас надзвычайнай сітуацыі...

Інтэрнэт-архіў ЗША не адзіны, хто гуляе ў гэтую гульню. 3 красавіка выйшаў зварот ад кола арганізацый і асобных людзей, якія займаюцца аўтарскімі правамі (уключаючы Інтэрнэт-архіў, былую дэпутатку Пірацкай партыі ў Еўрапарламенце Юлію Рэду, «Маладых піратаў» Агульнаеўрапейскай моладзевай арганізацыі і шматлікіх навукоўцаў і арганізацыі з ЗША, Канады, Еўропы і іншых краін) з хадайніцтвам да генеральнага дырэктара Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці «прыняць тэрміновыя меры ў сувязі з каранавірусам, датычныя аўтарскага права, і скіраваць належным чынам дзяржавы-ўдзельніцы». Сярод крокаў, прапанаваных у лісце, — заклік да ўрадаў пашырыць выключэнні ў галіне аўтарскага права, а ўладальнікам правоў — зняць абмежаванні на ліцэнзаванне, якія «перашкаджаюць дыстанцыйнай адукацыі, навукова-даследчай працы <...> і доступу да культуры, у тым ліку праз межы. Усё гэта для вырашэння наступстваў пандэміі і мінімізацыі яе наступстваў».

Здагадка, што ліцэнзаванне зместу «тармозіць» адукацыю і даследаванні, выяўляе сапраўднае мысленне тых, хто стаіць за гэтым зваротам. Ліст завяршаецца просьбай прыняць «хуткія і выразныя меры па забеспячэнні таго, каб сусветная сістэма інтэлектуальнай уласнасці садзейнічала развіццю даследаванняў, адукацыі, доступу да культуры і аховы здароўя». Але гэта ўжо даўно робіцца, якія новыя дзеянні яшчэ патрэбныя? Зварот — гэта спроба перагляду ўсёй сістэмы міжнароднай абароны аўтарскага права. Для асобаў і арганізацый, якія падпісалі зварот, COVID — гэта занадта добрая нагода, каб выкарыстаць старыя аргументы супраць аўтарскага права. Гэта дымавая заслона, якая літаральна азначае наступнае: «Давайце паглядзім, як мы можам выкарыстаць трагедыю сусветнай пандэміі для прасоўвання нашай уласнай праграмы барацьбы з аўтарскім правам». Падобнае нельга дапускаць.

Пандэмія каранавіруса — гэта і трагедыя, і выклік. Нам усім трэба аб'ядноўваць сілы, каб перамагчы праблему, а не дзяліцца на групы і прасоўваць свае прыхаваныя інтарэсы пад выглядам клопату пра чалавецтва. Сістэма аўтарскага права павінна быць адкрытай, заснаванай на правілах узгодненых міжнародных норм. Яна павінна абараняць інтэлектуальную ўласнасць, паважаць яе стваральнікаў і матываваць ствараць новы кантэнт для навучання, даследавання, пашырэння культуры і забаў. Пандэмія COVID-19 не мусіць выкарыстоўвацца, напрыклад, як падстава для прыпынення, а затым прынцыповай змены прынятых правілаў дарожнага руху. Калі гэтая пандэмія скончыцца, а яна скончыцца, нам спатрэбяцца ўсталяваныя правілы і практыка больш, чым калі-небудзь. Безумоўна, калі мы працуем, каб адрадзіць унутраную і сусветную эканоміку і аднавіць надзею і бяспеку для многіх людзей.

**Пераклад з англійскай**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by